

БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ Змена

ВЫДАЕЦЦА З 1921 ГОДА

ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ № 17 (13549)

20— 26 красавіка 1992 года

Цана 2 рублі.

У нумары:





## 26 красавіка міне шэсць гадоў, як мы сталі заложнікамі Чарнобыля.



* * *

Ты смелы, фатограф,
бо ходзіш па гэтай зямлі –
Атручанай, кінутай,
у вогнішчы здрады гарэлай...
Ў тваім аб'ектыве –
злачынна пустыя палі,
І вёрсты дарогі,
забытай, да веку знямелай.
Хто вымераць здольны
працэнты пакутаў травы?
Хто з нас пашкадуе
забітую, мёртвую глебу?
Не ты, мой сучаснік... Святыя?
І нават не вы,
Бо небу ўсё роўна,
спусцеламу беламу небу...
А стомлены Бог,
пасівелы ад нашых грахоў,
Ілжывых маленняў,
ад нашых злачынных ахвяраў,
Прызначыў
на Дзень Уваскрасення
пасланца свайго –
Нябесную кару.

Алесь АКСАНІЧ.

Фотарэпартаж нашага спецыяльнага карэспандэнта С. БРУШКО з Брагінскага раёна

глядзіце на старонках 3, 5, 7, 10, 12, 16.

ALFA

# ВЕРУЮ...

Часам мне здаецца, што мы, людзі, ідзём у суцэльнай цемрадзі. Як тыя сляпыя кацянята. Памяць асобнага чалавека здольна захоўваць жорсткія жыццёвыя ўрокі і кожны так ці інакш імкнецца не паўтараць горкі вопыт, пазбягаць мінулых памылак. А вось чалавецтва ўвогуле? Ці возьмем вузей – народ, нацыя... Чалавеку адведзена няхай сто гадоў жыцця, у чалавецтва за плячыма – тысячагоддзі, але ці здольнае яно, ці можа, ці, урэшце, хоча ўлічваць сабе на карысць сваю шматпакутную гісторыю, свой лёс на гэтай планеце? І калі прасочваеш нейкае няўцямнае паўтарэнне войнаў, бясконца сляпое абагаўленне масамі правадыроў-ідалаў і запозненае прасвятленне, неадступнае, упартае забруджванне навакольля, подобнае на павольнае самагубства, то... сумняваешся ў мажлівасці скарыстання гэтага самага гістарычнага вопыту. Дзецям, як мы іх ні вучым, усё роўна наканавана паўтарыць нашы памылкі. Нашчадкам, як ні заклікае іх папярэдняе пакаленне зрабіць высновы са страшэнных выпрабаванняў мінуўшчыны, ізноў жа наканавана зацята ісці амаль тым жа шляхам. І, як правіла, наступнікі прыгадваюць пра папярэджанні продкаў запозлена, калі самі неўспадзеў апякаюцца аб непапраўнасць зробленых памылак. І ў хвіліны адчаю мне здаецца слушным прароцтва пра няўхільны, няўмольны канец свету. Прыгадваецца змрочная філасофія п'есы, дзе невідушчыя вандроўнікі адзін за адным ідуць да абрыву... Праз сваю слепату яны не бачаць небяспекі. Але ёсць, ёсць дзіцячая вера, што ўсё ж тым, хто прыйдзе пасля нас, будзе жыцца лягчэй, намнога лягчэй. Няхай ім нашы пакуты аблегчаць жыццё. Няхай яны, умудроныя нашымі стратамі, пойдуць шляхам розуму, адказнасці, непадуладнасці сляпым парывам. Як хочацца верыць у гэта. Асабліва ў такі дзень – 26 красавіка, шосты год ад чарнобыльскай трагедыі.

Уладзімір Яварыўскі – украінскі пісьменнік, ён жа – старшыня парламенцкай камісіі Украіны па праблемах Чарнобыля, на адной з сесій свайго парламента зазначыў: "...біблейская зорка Палын упала на нашу зямлю. Цяпер ужо дакладна вядома, што мы – пазначаны богам народ". На жаль, нават у бядзе мы не здольныя ўтрымацца ад размежавання. Гэтак сама "пазначыў Бог" не толькі ўкраінцаў, але і беларусаў, расейцаў, усё чалавецтва, а мо і ўсю планету. Цяпер ужо дакладна вядома, што чарнобыльская аварыя кранула сваім чорным крылом Германію, Скандынаўскія краіны, Балгарыю... А ці не глупства навыперадкі даказваць адзін аднаму, хто найбольш пацярпеў ад усеагульнай бяды. Адзінае выйсце – аб'яднаць намаганні для змяншэння вынікаў аварыі і для немажлівасці падобнай аварыі ў будучыні. А падумаць тут ёсць над чым. Не толькі кожнаму паасобку, без прывязкі да нацыянальнай прыналежнасці, але і глабальна – усяму чалавецтву. З 1971 па 1984 год у 14 краінах адбылася 151 аварыя на атамных станцыях. Чарнобыльская стала, мажліва, 152-й ці 153-й. Урэшце фатальны рост ядзерных катастроф павінен жа некалі спыніцца. Чарнобыль – толькі звяно ў гэтым смяротным ланцугу.

Цяпер мы ўжо ведаем усе акалічнасці, якія прывялі да 26 красавіка. Тое-сёе, напэўна, варта прыгадаць. З трох праектаў, прапанаваных Уральскім інстытутам "Цеплаэлектрапраект", першы быў прызнаны найгоршым. Але стан ягонай распрацоўкі і падрыхтаванасць пастаўшчыкоў дасылаць абсталяванне – найлепшыя. У выніку быў прыняты не навукова абгрунтаваны, хоць і больш працаёмкі, праект, а той, які даваў магчымасць праявіць цуды сацыялістычнай увішнасці ў працы. Выбар месца таксама вызначыў выпадак. Цяпер мы ўжо ведаем, што АЭС часцяком узводзіліся па просьбах сакратароў абкамаў. Да прыкладу – Адэская АЭС, пабудаваная згодна з жаданнем сакратара Адэскага абкама КПУ. Першы сакратар Кіеўскага абкама партыі спадар Цыбулька перад будаўнікамі Чарнобыльскай АЭС у старыя спакойныя часы заявіў: "Паглядзіце, таварышы, які цудоўны горад Прыпяць, вока радуецца! Вы гаворыце: чатыры энергаблокі. А я скажу так: мала! Я пабудаваў бы тут восем, дванаццаць, а то і ўсе дваццаць энергаблокаў! А што? І горад вымахае да 100 тысяч чалавек". Навукоўцы пярэчылі будаўніцтву пятага і шостага блокаў. Але шаноўная камісія ўлічыла думку апаратчыка... А сёння ўжо няма "горада-сада". Ёсць 8 тысяч тых, хто прайшоў праз Чарнобыль, і каго ўжо ніколі не адшукаеш сярод жывых. Рост ракавых захворванняў шчытападобных залоз Міністэрствам аховы здароўя СССР прагназаваўся напрыканцы першага дзесяцігоддзя пасля чарнобыльскай катастрофы. А распачаўся намнога раней. Ледзь адлічылі пяць-шэсць гадоў ад аварыі. Асабліва азначанае тычыцца дзяцей Гомельскай і Магілёўскай абласцей. Трэба было не выводзіць людзей на першамайскую дэманстрацыю, а тэрмінова праводзіць супрацьёдавую прафілактыку, якая папярэдзіла б накапленне ў арганізме чалавека радыеактыўнага ёду. Як вынік афіцыйнага замоўчвання, а пасля і бяздзеяння, у апрамянёных людзей насталі незваротныя змены ў эндакрыннай сістэме (на ўсіх узроўнях – ад утварэння гармонаў да іх дзейнасці). Трэба было...

Сёння мы прадстаўляем чытачам нумар нашай "Чырвонкі", амаль цалкам прымеркаваны да дня жудаснай трагедыі. Гэта сціплы ўнёсак чырваназменаўцаў у агульную памяць пра ўжо загінуўшых, суперажыванне пацярпелым і вера, што падобнае ніколі не паўторыцца...

Апошняе ў многім залежыць ад кожнага з нас. Памятайма пра гэта!

Алена АГІБАЛАВА.

# "ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА" жыла, жыве і будзе жыць!

21 красавіка 1992 года, насуперак зімоваму надвор'ю, заўсёды маладая "Чырвоная змена" адзначае свае 71-годдзе.

Праўда, мне, чалавеку, які 26 гадоў свайго жыцця (амаль палову) правёў у гэтай вельмі любімай мной газеце, крыху крыўдна, што многім супрацоўнікам давялося напомніць пра гэту дату, але радавалі шматлікія віншаванні па тэлефоне былых чырваназменаўцаў.

Зараз газета ў складаным эканамічным стане. Але калектыў "Чырвонкі" заўсёды славіўся цудоўнымі традыцыямі, цёплымі адносінамі адзін да аднаго, спагадлівасцю, дружбай. Думаю, што дзякуючы гэтым якасцям яна павінна выстаяць, бо ў яе вельмі моцны характар і дух. Выдавалася ж яна ў час вайны ў падполлі на востраве Зыслаў Амяльянам Сцяпанавічам Шурпачом, які, на вялікі жаль, не дажыў да гэтага дня нараджэння газеты. І з паперай тады было не прасцей.

Горача віншую чырваназменаўцаў усіх пакаленняў са святам газеты, жадаю моцнага здароўя, бадзёрасці і маладога запалу.

Жыве "Чырвоная змена"!

Валянціна Скарынкіна.

## Пытанне ў нумар

*"Ідуць размовы, што ў Беларусі хутка будуць свае грошы і што называцца яны будуць "талер". Скажыце, калі зможаце, якое дачыненне мае сярэдневяковая нямецкая манета да грашовых знакаў нашай рэспублікі?*

І.Вайтовіч."

Думка аб тым, што талер, або таляр (бо гэту манету і так і гэтак называлі на Беларусі) з'яўляецца менавіта нямецкай, памылковая. Узнікла яна хутчэй за ўсё з-за шыракавядомых з дзяцінства ўсім жыхарам нашай краіны казак братоў Грым. На самай справе "радзімай" талера з'яўляецца Чэхія. Ды і назва іх пайшла ад назвы горада, у якім гэтую манету ўпершыню адчаканілі — Іоахімсталя. Адбылося гэта ў 1518 годзе. Талер быў цяжкай (да 30 грамаў) высакапробнай срэбранай манетай. Хутка ён распаўсюдзіўся па ўсёй Еўропе. Манетныя двары іншых краін таксама пачалі выпускаць гэту манету. Зразумела, што кожны з уладароў гэтых самых манетных двароў "апранаў" сваю прадукцыю ў "нацыянальны мундзір". Але паколькі ў той час пры заключэнні гандлёвай здзелкі пад назвай "купля-продаж" з'ўлялася не выява, якая ўпрыгожвала тую ці іншую манету, а тое, з чаго гэта самая манета была зроблена, ды яшчэ яе проба ды вага, то грошы розных краін свабодна перамяшчаліся па ўсёй Еўропе. Называліся яны па-рознаму: "левандаальдрэры" і "дыксдаальдэры Галандскай рэспублікі" (адрозніваліся гэтыя манеты толькі тым, што на першай была выява льва, а на другой — караля, "талеры" германскіх баронаў, герцагаў і вольных гарадоў. Мала-памалу цяжкавымаўляльныя назвы былі скарочаны і манеты пачалі называць даальдэр, даалер, талер... як каму лягчэй вымаўляць. На Русі ж, якая заўжды вызначалася сваёй самабытнасцю, пайшлі іншым шляхам. Там адкінулі не першую частку назвы, як ва ўсёй Еўропе, а другую і "ахрысцілі" замежную манету "яфімкай". А каб надаць гэтай самай яфімцы статус законнай, прайшоўшай дзяржаўны кантроль, на "экспартных" манетах ставілі адбітак з выявай Георгія Пабеданосца верхам на кані.

Аналіз грашовых скарбаў, якія былі знойдзены ў Беларусі, дае магчымасць зрабіць выснову, што першыя талеры з'явіліся на нашай зямлі ў 1529 годзе. У хуткім часе — у 1529 годзе — Віленскі манетны двор пачаў "біць" (штампаваць) айчынныя талеры. Заўважу, што заходнія нашы суседзі — палякі — змаглі зрабіць гэта толькі ў 1580 годзе. З тых часоў талер стаў найбольш распаўсюджанай і надзейнай буйной срэбнай манетай на нашай зямлі. Яго абарачэнне працягвалася нават пасля далучэння беларускіх земель да Расейскай імперыі. Прычым рабілася гэта нягледзячы на неаднаразовыя забароны царскага сената. Указы ўказамі, а звычка ёсць звычка. Тым больш, калі гэта датычыцца срэбра. Але мала-памалу прыток талераў з-за мяжы згас, і дзесьці ў сярэдзіне XIX стагоддзя насельніцтва Беларусі цалкам пераходзіць на карыстанне агульнарасійскай грашовай сістэмай.

Мікола Багадзяж.

ТЭЛЕТАЙП

### Хто ж схлусіў?

На пасяджэнні Цэнтральнай камісіі па рэферэндуму Рэспублікі Беларусь было паведамлена, што пры падліку падпісных лістоў, праведзеных з удзелам прадстаўнікоў Ініцыятыўнай групы, устаноўлена, што Ініцыятыўная група перадала ў Цэнтральную камісію 125931 падпісны ліст, у якіх аказалася 442032 подпісы грамадзян, альбо на 4029 подпісаў менш, чым значылася ў заключным акце. У прынцыпе, гэта не істотна, бо ўсё роўна значна больш за тыя 350 тысяч, якія трэба было сабраць.

### Індыя—Беларусь

У сталіцы Беларусі падпісаны пратакол аб устанаўленні дыпламатычных адносін паміж РБ і Рэспублікай Індыяй. Было дамоўлена абмяняцца дыпламатычнымі місіямі на ўзроўні пасольстваў.

### Атрыбуты суверэнітэту

Саўмін РБ разгледзеў пытанне, звязанае з дзяржаўнай сімволікай Беларусі. Зацверджаныя парадак вырабу выявы Дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь і яго масавага тыражавання, парадак вырабу, выкарыстання, захавання і знішчэння пячатак з выявай Дзяржаўнага герба, а таксама правілы прымянення Палажэння аб Дзяржаўным сцягу Рэспублікі Беларусь.

### Ізноў Афганістан...

Не паспелі яшчэ зацягнуцца раны ў савецкіх салдат, якія воляю кіраўнікоў былога СССР ваявалі з афганскім народам, як новая хваля жорсткасці пракацілася па гэтай краіне. Слова "Афганістан" стала для нас сінонімам смерці, без Афганістана мы ўжо не ўяўляем сабе гісторыю. Але ўсё вяртаецца "на круги своя". Маджахеды, змагары супраць іншаземнай інтэрвенцыі, якіх раней савецкія ("шураві") называлі душманамі, ворагамі, нарэшце дамагліся таго, за што змагаліся доўгія гады. Рэжым, які, нягледзячы ні на якія акалічнасці, трымаўся амаль выключна на штыках савецкай арміі, спыніў сваё існаванне.



Культура

## СВЯТА ДЛЯ ЮНЫХ

У сапраўднае свята музыкі і песні вылілася для юных талентаў сустрэча з паэтам Васілём Жуковічам і заслужаным дзеячам мастацтваў Расіі, заслужаным работнікам культуры Беларусі, кампазітарам Эдуардам Казачковым, якая адбылася ў Доме літаратара. Упершыню прагучала на ёй сюіта кампазітара "Гуканне вясны" на вершы В. Жуковіча, якую выканала больш за сорак дзяўчынак падрыхтоўчай групы ўзорнага хору "Сонейка" Палаца культуры Белсаўпрофа. Вучаніцы сярэдняй школы № 1 паказалі юным мінчанам оперу паводле беларускіх народных казак "Пра тое, што было" гэтых жа аўтараў (кампазітар Э.Казачкоў, лібрэтыст В.Жуковіч).

А як вялі свае партыі ў оперы Наталля Цельпукова, вучаніца 10 "А" класа, якая выконвала партыю Лісы, а таксама дзве аднакласніцы з 7 "А" Наталля Андрэева (Кот) і Алеся Баркун (Певень)! Перапоўненая тэатральная зала Дома літаратара громам апладысментаў сустракала кожную арыю.

Г.Пятроўскі.

# КУР'ЕР ТЫДНЯ

*Васіль БЫКАЎ, народны пісьменнік Беларусі:*

-- Жыццё баліць... Душа баліць за жыццё, бо яно разломваецца, нішчыцца, ідзе на дно. Барацьба, якую вядуць прагрэсіўныя сілы, не дае вынікаў. Супраціўленне рэакцыйных сіл даволі моцнае. У гэтым бачу прычыны эканамічнага заняпаду, які паглыбляецца з кожным днём.

Сёлета Вялікдзень супаў з гадавінай Чарнобыля. Гэта сімвал божага напаміну, бо нават у Бібліі ёсць знак... Сэнс гэтага знака пакуль не раскрыты чалавецтвам. Можа яно раскрые яго, можа і не...

*Наталля Аляксандраўна ДУВАНАВА, намеснік генеральнага дырэктара аб'яднання "Фармацыя":*

Што адбываецца апошнім часам з аптэкамі ў Мінску? Здаецца, іх адначасова "падкасіла" нейкая "эпідэмія": амаль усе аказаліся закрытымі. Пракаменціраваць сітуацыю згадзілася Н.А.Дуванава, намеснік генеральнага дырэктара аб'яднання "Фармацыя".

– Ідзе пераацэнка ў сувязі з падаражаннем лекаў у сярэднім у 4 разы. Аптэкі былі зачынены па спецыяльнаму графіку, і цяпер амаль усе працуюць.

– У гэтыя дні многія мінчане безвынікова "маталіся" па горадзе, спрабуючы адшукаць хоць нейкія лекі для сваіх родных: асартымент у дзяжурных аптэках быў зусім мізэрны. А як быць тым, у каго захварэлі маленькія дзеці ці старыя бацькі? Ці не варта было б адкрыць хоць бы адну спецыялізаваную аптэку для іх?

– Нам гэта нявыгадна. Акрамя таго, усё, што ёсць на базе, ёсць у кожнай аптэцы. Астатняе неабходна тэрмінова закупляць. А пакуль гэтае пытанне не будзе вырашана – сітуацыя не палепшыцца.

*Анатоль ЦЫГАНКОЎ, галоўны інжынер кандытарскай фабрыкі "Камунарка":*

– Ці будзем мы і надалей выпускаць цукеркі? Гэтае пытанне не нам трэба задаваць. Пакуль выпускаем, але ніякіх гарантый на далейшае ў нас няма. Катастрафічна не хапае цукру, іншай сыравіны. Мы не ведаем, што будзем рабіць. ...Вытворчасць скарачаецца, адпаведна – рабочыя месцы. Прамыя дагаворы? Мы іх падпісваем, але дзе гарантыя, што ў вытворцаў цукру, з якімі мы заключым пагадненне, у сваю чаргу будзе сыравіна? Валюты мы не маем, і толькі ад распараджальнасці Саўміна залежыць, ці будуць на прылаўках цукеркі вытворчасці фабрыкі "Камунарка".

# СУСЕДКІ





Гэтых дзвюх старых жанчын можна назваць суседкамі, хоць жывуць яны на адлегласці кіламетраў у дваццаць і адна з адной знаёмы.

Марыі Пархомаўне Мінёнак ужо восемдзесят, усё жыццё пражыла ў Пірках, пахавала пасля вайны мужа і дзяцей, засталася адна. Пасля адсялення павандравала два гады і вярнулася ў родную вёску дажываць свой век. Жыве сярод сотень пустых, разрабаваных дамоў. Толькі ля дома дзень і ноч злавесна гарыць на слупе адзіны ліхтар. Дзякуй Богу, побач знаходзіцца кантрольна-прапускны пост, і міліцыянеры дапамагаюць бабульцы прадуктамі і па гаспадарцы. Для ўсіх жа астатніх яе як быццам няма – не атрымлівае ні пенсіі, ні купонаў з талонамі -- нічога! Засталася сам-насам са шматлікімі кошкамі, якія прыбіліся да чалавечага жытла.

Ганна Мінаўна Ятчанка, якая жыве ў Калыбані, не выязджала з дому зусім, хоць вёска знаходзіцца ў 30-кіламетровай зоне адчужэння, цяпер яна называецца Палескім радыяцыйна-экалагічным запаведнікам. Ганна Мінаўна маладзейшая і больш жвавая за сваю суседку, мае сякую-такую гаспадарку, ездзіць зрэдку ў Чарнігаў на базар і чакае сваіх аднавяскоўцаў на Радаўніцу, калі ўсе з'едуцца наведаць памёршых.

Гэтыя дзве жанчыны пасвойму распарадзіліся сваім лёсам. Але і нам не трэба забываць пра людзей, якія бачылі ў сваім жыцці толькі працу на ферме і на калгасным полі, а цяпер аказаліся ў бядзе і адзіноце не па сваёй віне.

**Фота С.Брушко.**







## • Чарнобыль: глабальны ўрок

# "Аднаразовае" жыццё

**Госць гэтай чырваназменаўскай старонкі Яўген Фёдаравіч Канапля -- дырэктар Інстытута радыебіялогіі АН Беларусі, акадэмік, прафесар, доктар медыцынскіх навук, народны дэпутат Рэспублікі Беларусь.**

**-- Яўген Фёдаравіч, будзьце ласкавыя, дайце характарыстыку прынятых і прымаемых па сённяшні дзень мер па зліквідаванню наступстваў чарнобыльскай катастрофы.**

-- У пацярпелых раёнах пагаршаецца здароўе людзей. У ежу ўсё ж трапляе пэўная доля забруджаных сельскагаспадарчых прадуктаў. Не скончаны працэсы дэзактывацыі. На добраўпарадкаванне населеных пунктаў, на забеспячэнне прадуктамі харчавання, на ўмовы перасялення няспынным патокам ідуць скаргі... Гэтыя і іншыя адзнакі не даюць магчымасці сведчыць пра паўнату і эфектыўнасць зробленых захадаў адносна пацярпелых ад Чарнобыля тэрыторый і людзей. Меры, якія прымаліся і прымаюцца, -- недастатковыя, нягледзячы на тое, што ўкладваюцца вялізныя сумы грошай, нягледзячы на намаганні мясцовага і рэспубліканскага кіраўніцтваў. Гэтыя самыя меры не дасягаюць жаданага выніку.

**-- Што, на ваш погляд, перашкаджала ці перашкаджае дамагчыся неабходнай дзейснасці?**

-- Працяглы час не было дзяржаўнай праграмы па зніжэнню наступстваў чарнобыльскай аварыі. У аснову такога дакумента, які з'ядноўвае прыватныя праблемы ў адзінае цэлае, неабходна было пакласці канцэпцыю пражывання насельніцтва, каб максімальна знізіць шкоду для здароўя людзей. Вы, пэўне, помніце гэту працяглую гісторыю барацьбы за канцэпцыю пражывання. Міністэрствам аховы здароўя СССР была рэкамендавана тэорыя "35 бэр за 70 год", г.зн. дапушчальная норма апраменьвання -- 0,5 бэра штогадова, і так на працягу ўсяго жыцця чалавека. Гэта прапаноўвалася нашай рэспубліцы як норма. Беларускія вучоныя, найбольш супрацоўнікі Акадэміі навук, выступілі супраць "35-бэрнай" устаноўкі Масквы. У той час, калі навукоўцы дзвюх іншых пацярпелых рэспублік -- Украіны і Расіі, дый усяго Саюза адмоўчваліся або згаджаліся з высновамі навуковай наменклатуры цэнтра. У процівагу афіцыйнай канцэпцыі навукоўцы Беларусі вылучылі сваю -- "7 бэр за 70 год", згодна з якой за год дапушчальная норма апраменьвання не павінна перабольшваць 0,1 бэра ў год. І, зразумела, гэтую прапанову энтузіясты адстойвалі, хоць іх і "дзяўблі" на бясконцых навуковых дыскусіях. Былі абвінавачванні і з боку ўрада Беларусі. Паколькі ў саюзных навукоўцаў не знайшлося дастаткова аргументаў для абвяржэння нашай тэорыі, была запрошана ў якасці своеасаблівага трацейскага суддзі МАГАТЭ. Гэта першая экспертыза становішча на забруджаных радыенуклідамі тэрыторыях была праведзена па запытанню Міністэрства аховы здароўя, дзеля падтрымкі 35-бэрнай фармулёўкі.

**-- І МАГАТЭ падтрымала саюзнае міністэрства?**

-- Так, эксперты МАГАТЭ не толькі ўмацавалі пазіцыі "маскоўскага" ўзроўню апраменьвання, але і крывадушна заявілі: самі б яны рэкамендавалі норму ўдвая, нават утрая большую за 35 бэр. Зразумела, эксперты МАГАТЭ захоўвалі прэстыж і непарушную карыснасць ядзернай энергетыкі, прадстаўнікі Міністэрства аховы здароўя -- саюзны бюджэт і чысціню ведамаснага мундзіра. Не хацелася б сёння ўспамінаць пра пісьмовае абвінавачванне вучоных Беларусі, у меншай ступені -- Украіны (на той час яны далучыліся да нашых вынёскаў), падпісанае 92-ма навукоўцамі. Яно стваралася пад кіраўніцтвам Акадэміі медыцынскіх навук, акадэміка Ільіна.

Ішоў час. Распачаліся новыя выбары. Набліжаўся 1 з'езд народных дэпутатаў СССР, актывізоўваліся грамадскія рухі. Нельга ўжо было далей утойваць ад людзей праўду пра Чарнобыль. І тыя, хто стаяў ля ўлады, пайшлі на пэўныя кампрамісы. Гэты працэс развіваўся на карысць нашых поглядаў. Крок за крокам, прыступка за прыступкай дасягаліся маленечкія перамогі, якія пацвярджалі слушнасць меркаванняў навукоўцаў Беларусі. І ўрэшце гады два таму мы перамаглі: дапушчальным узроўнем умяшальніцтва прызнаны 0,1 бэра ў год.

**-- Колькі часу страчана, пакуль ішлі навуковыя дэбаты!**

-- І страчана марна. Мякка кажучы, не з карысцю для нашай рэспублікі. Калі звярнуцца да маіх тагачасных выступаў у прэсе, можна заўважыць, што я яшчэ тады заяўляў пра высловы акадэміка Ільіна. Апошні гаварыў: таварышы, калі вам не падабаецца наш пункт погляду, вы (маецца на ўвазе рэспубліка) пераходзіце ў 89-м годзе на самастойнасць, прымаеце сваю канцэпцыю, плаціце за яе грошы і робіце... што хочаце. Па вялікаму рахунку за навуковай дыскусіяй стаяла ясная палітычная, эканамічная мэта -- працягнуць час да таго моманту, калі рэспубліка стане самастойнай, тады Беларусь змушана будзе змагацца з чарнобыльскімі наступствамі за кошт сродкаў рэспубліканскага бюджэту. Яны прамаруджвалі час і цудоўна выканалі сваю задачу. Я звяртаўся да былога ўрада, да кіраўніцтва Вярхоўнага Савета. Усё дарэмна. Я пераконваў, што калі вучоныя кладуць галовы свае на плаху празмернай адказнасці, дык дайце магчымасць ім абараніць тое, дзеля чаго яны рызыкуюць, выслухайце іх. Прычым страт для рэспублікі ў нашых прапановах не ўтрымлівалася ніякіх. Папросту былі б тэрмінова перасяленыя з забруджанай зоны тыя людзі, якіх перасяляюць сёння. І праводзіцца гэта перасяленне праз 4 гады пасля нашых прапаноў, праводзіцца ў тых умовах, калі няма ні фінансавай, ні матэрыяльнай базы. Мы ж у свой час папярэджвалі: давайце напачатку выведзем людзей з забруджаных раёнаў, пасля ж будзем разбірацца ў канцэпцыях... Калі б да нашага звароту прыслухаліся -- сёння рэспубліка займалася б забеспячэннем належных умоваў жыцця ў зонах, куды пераселены людзі, а не ўласна перасяленнем. Упушчаны час, яго не вярнуць, як не вярнуць магчымасць атрымання сродкаў з саюзнага бюджэту.

У мінулым годзе Міжнародны камітэт па радыяцыйнай ахове прыняў рэкамендацыі, якія поўнасцю супадаюць з нашымі -- 0,1 бэра ў год. Прыняў не таму, што ён прыслухаўся да меркаванняў беларускіх вучоных, а таму, што ва ўсім свеце ёсць цвяроза думаючыя галовы, ва ўсім свеце ёсць каэфіцыенты, нарматывы дапушчальных нормаў апраменьвання.

**-- На жаль, гэтае пацвярджэнне вашай праваты ўтрымлівае больш горычы, чым радасці.**

-- Так. Спробы адстаяць сваю пазіцыю ўвянчаліся ўрэшце перамогай. Памятаеце, быў праведзены ў 90-м, 91-м гадах міжнародны чарнобыльскі праект пад эгідай МАГАТЭ. Я прысутнічаў на афіцыйным пасяджэнні камітэта, дзе зачытваліся вынікі экспертызы. Беларускія вучоныя выступілі супраць прадстаўленага даклада з вынікамі даследаванняў забруджаных радыенуклідамі раёнаў. Прычым заява аб нязгодзе была зроблена не толькі ад імя вучоных, але й таксама ад кіраўніцтва рэспублік -- Украіны, Расіі, Беларусі. Я не займаюся зараз дзяльбою поспехаў, бо важныя ўрэшце не лаўры, а канчатковы вынік. У дакладзе МАГАТЭ не праводзілася аніякай ацэнкі стану здароўя пацярпелых ад аварыі на АЭС, увогуле адмаўлялася шкоднае ўздзеянне радыяцыйнага фактару. Гэта ў той час, калі катастрафічна пачаў расці рак шчытападобнай залозы ў дзяцей. Можна бясконца працягваць недахопы кан'юнктурнага даследавання МАГАТЭ... Вынёскам жа прадстаўленага дакумента стала наступнае: так, рэкамендуемыя Міністэрствам аховы здароўя СССР дапушчальныя нормы апраменьвання сапраўды не адпавядаюць міжнародным нормам, але для нас яны прыймальныя. Вось і ўсё. На наступны дзень было пасяджэнне Міжнароднага камітэта радыяцыйнай аховы, на якім урэшце былі расстаўлены ўсе кропкі над "і".

На сённяшні дзень прынята Дзяржаўная праграма і законы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь аб сацыяльнай абароне пацярпелых ад Чарнобыля і аб статусе забруджаных тэрыторый. Усе гэтыя дакументы дастаткова добрыя, але ўся бяда зноў жа ў тым, што яны не выконваюцца ў поўнай меры з-за адсутнасці матэрыяльных рэсурсаў.

**-- Такім чынам, мы ўпусцілі час, дачакаліся поўнага росквіту эканамічнага крызісу. Але нават у цяперашніх умовах дзяржава павінна зрабіць усё магчымае і нават звыш таго для так званых "чарнобыльскіх людзей".**

-- Мы правялі сацыялагічнае апытанне. Сярод пераселеных, асабліва на першым этапе -- у 1986 годзе, траціна згодная яшчэ раз перасяліцца, 10 працэнтаў перасяленцаў гатовы з'ехаць за межы рэспублікі. З-за чаго? З-за таго, што яны пераселены ў недастаткова чыстыя населеныя пункты. Многія сем'і панеслі значны матэрыяльны ўрон, пагоршыліся іхнія жыллёвыя ўмовы, большасць не задавальняюць прапанаваныя рабочыя месцы. Такім чынам, стварыць праграмы -- добра, але далёка не дастаткова. І вось ужо паўтара месяца таму Прэзідыум Савета Міністраў Беларусі прыняў наступную пастанову -- прапанаваць вучоным перагледзець раней прынятыя нормы апраменьвання. Гэта значыць перагледзець усё раней зробленае намі.

**-- З большай строгасцю падысці да дапушчальных норм ці наадварот?**

-- Ды не! Якраз наадварот! Выкананне дзяржаўнай праграмы па зніжэнню вынікаў чарнобыльскай катастрофы забяспечана матэрыяльнымі рэсурсамі на 60--70 працэнтаў. А астатняе? Абяцала дапамагчы Расія, але яна зараз і сама ў страшэнным крызісе. Меркавалася стварыць адзіную праграму для Украіны, Расіі і Беларусі адносна чарнобыльскіх наступстваў, якая прадугледжвала б долевы ўдзел у агульнай справе кожнай з рэспублік. Такая праграма-пагадненне была падрыхтаваная, але... так і не падпісаная. Да прыкладу, параўнаем становішча з ліквідацыяй вынікаў чарнобыльскай катастрофы на Беларусі і на Украіне. Украіна свае асноўныя праблемы вырашыла яшчэ ў 1986--1987 гг. Тады беларускае кіраўніцтва ледзь што не крычала -- нам дапамога не патрэбная. На сённяшні дзень на Украіне няма ніводнага населенага пункта з забруджанасцю 60 кюры, дзе б пражывалі людзі. З забруджанасцю звыш 40 кюры ў рэспубліцы-суседцы пасля перасялення ў 1986-м годзе засталося каля 8-мі пакуль што не выселеных пунктаў. У нас жа такіх месцаў, па-мойму (нават страшна сказаць!), каля дваццаці. Урэшце эканамічны патэнцыял Украіны вышэйшы за беларускі. Такім чынам палітыкі не прыйшлі да паразумення, бо так і не створана дзейснае пагадненне наконт Чарнобыля. У гэтых умовах Саўмін Беларусі распачынае запатрабоўваць ад навукоўцаў нейкіх новых прапаноў. Мэта такіх захадаў гранічна ясная -- зрабіць усё магчымае, каб зменшыць аб'ём фінансавання прыгаданай дзяржаўнай праграмай, у аснову якой былі пакладзены прапанаваныя намі дозавыя нагрузкі. Але, пэўна, калі зараз склаліся цяжкасці і мы не можам выканаць прынятую праграму, забяспечыць народу неабходную сацыяльную абарону, варта людзям прама сказаць пра гэта. Няма сакрэту, што гаворка ідзе пра даплаты жыхарам пасёлкаў, дзе забруджанасць складае ад 1 да 5 кюры на кв. км. Але гэта ўжо не навуковыя, а эканамічныя пытанні. Навукоўцы ж прынятыя, сапраўды гуманныя, дозавыя нагрузкі зніжаць не будуць, нягледзячы на спушчаныя зверху рэкамендацыі ў выглядзе пастаноў.

**-- Хацелася б пачуць вашы меркаванні наконт гуманітарнай дапамогі.**

-- Праблемы Чарнобыля -- на дзесяцігоддзі і нават на стагоддзі. Зыходзячы з гэтага, варта з удзячнасцю ставіцца да аказанай гуманітарнай дапамогі як да часовага паратунку, але... Немагчыма нават уявіць сабе, што замежнікі будуць дзесяцігоддзямі аздараўліваць нашых дзяцей. Дзесяцігоддзямі будуць аказваць нам медыцынскую дапамогу, дасылаць лекі. Неабходна памятаць: усё гэта разавая дапамога. Разавыя аздараўленні, разавыя пасылкі з прадуктамі і медпрэпаратамі. Да прыкладу ж, калі чалавек атрымлівае нейкія лекі і яны яму адпавядаюць, то неабходна рэгулярна скарыстоўваць аднойчы ўжыты прэпарат, карацей, нам неабходна сістэматычная актыўная дапамога. Аказаць яе нам... зможам толькі мы самі. Таму пад час свайго выступу на міжнародным кангрэсе я, побач з іншымі, заклікаў прысутных аб'яднаць фінансавую дапамогу розных краін для будаўніцтва на Беларусі ўласных лекава-аздараўляльных комплексаў. За шэсць гадоў у нас не створана, не пабудавана аніводнага такога комплексу, аніводнага навуковага цэнтра (я не кажу пра тыя будынкі, якія адабралі ў кагосьці), хаця сышлі, як вада ў пясок, мільярды. Падкрэсліваю, гаворка ідзе пра лекава-аздараўляльныя, а не толькі лекавыя ўстановы. Апошнія якраз можна пералічыць, хай пакуль што на пальцах адной рукі.

Няма даху над галавой у супрацоўнікаў Інстытута радыебіялогіі, які я ўзначальваю. Ён існуе на базе 5--6 інстытутаў і трымаецца на сумленным стаўленні да працы ягоных супрацоўнікаў. Мы сустракаемся толькі на агульных сходах. Распачата і нечакана спынена будаўніцтва Інстытута радыяцыйнай медыцыны. Між іншым, наш інстытут выступае за стварэнне на ягонай базе Міжнароднага цэнтра радыеэкалагічных і радыебіялагічных вынікаў. Неабходна аб'яднаць намаганні вучоных усяго свету дзеля таго, каб з максімальнай карысцю для чалавецтва знайсці выйсце з чарнобыльскай катастрофы, распрацаваць сістэму мер па ліквідацыі любой ядзернай катастрофы.

**Гутарыла Алена Агібалава.**

# НА НОВАЕ МЕСЦА





Вёску Мікулічы чакае лёс многіх падобных на яе — тых, што апынуліся ў зоне адсялення. Кожны дзень людзі пакідаюць свае дамы, у кожнага думкі пра пераезд, пра зборы, пра няскончаныя справы.

Алег Варанец разам з дачкой і сынам збіраў у мяхі бульбу — сеяць яе давядзецца ўжо на новым месцы. Сусед яго, таксама перасяленец, Леанід Аляксеевіч Сачок забіваў парсюка: без жывёлы абжывацца на новым месцы ўсё ж лягчэй. У мітусні збораў ніхто не задумваўся пра тое, што праз якіх некалькі дзён жыццё надоўга пакіне гэты кавалачак зямлі...

**Фота С.БРУШКО.**





# НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ І ЧАРНОБЫЛЬ

Адным з вынікаў развалу Савецкай Імперыі было з'яўленне новых незалежных дзяржаў, сярод іх і Рэспублікі Беларусь, што паўстала на месцы "суверэннай" Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.

Не ведаю, як беларусы свету адчулі незалежнасць іхняй Бацькаўшчыны, але думаю, што іхняя рэакцыя не адрознівалася ад рэакцыі аўтара гэтых радкоў, які, пачуўшы вестку, накіраваў шчырую падзяку Богу за тое, што даў яму ласку дажыць да гэтай хвіліны. А ўжо зусім немагчыма апісаць тое, што ён адчуваў, калі, прыехаўшы ў Мінск, першы раз убачыў над будынкам парламента родны бел-чырвона-белы сцяг.

Незалежнасць, хоць і доўгачаканая, прыйшла неспадзявана і застала беларусаў у вялікай меры непрыгатаванымі. Віна ў гэтым не беларусаў, але той сістэмы, якая панавала амаль тры чвэрці стагоддзя і душыла бязлітасна ўсялякія праявы не толькі імкнення да незалежнасці, але нават думкі аб ёй.

Праблемы, якія стаяць перад маладой дзяржавай, бязмерна вялікія, пачынаючы ад адраджэння нацыянальнай свядомасці і духоўнага жыцця, якія былі паслядоўна і свядома нішчаныя сістэмай савецкага ўзгадавання, да перабудовы эканомікі, якая на тэрыторыі Беларусі была падпарадкавана Цэнтру і служыла яго мэтам, не лічачыся з мясцовымі ўмовамі і патрэбамі.

Аднак усе гэтыя цяжкасці будуць з часам пераможаны -- новае пакаленне беларусаў у сваёй незалежнай дзяржаве будзе ведаць пра савецкі перыяд з падручнікаў гісторыі і ўспамінаў бацькоў.

Прынамсі так павінна было б быць, калі б не адна "памятка дзён", якая чорнай хмарай вісіць над усёй Беларуссю. Імя гэтай "памяткі" -- Чарнобыль.

Чарнобыльская атамная электрастанцыя, якая, дарэчы, носіць імя заснавальніка савецкай дзяржавы Леніна, знаходзіцца на Украіне на самай мяжы з Беларуссю. Аднак прыродныя з'явішчы не прызнаюць палітычных межаў, і таму Беларусь пацярпела больш за іншыя краіны ў выніку выбуху электрастанцыі 26 красавіка 1986 года. Сёння больш чым адна чацвёртая частка тэрыторыі Беларусі забруджана ў большай ці меншай меры радыяцыяй. На гэтай тэрыторыі пражывае больш за 2 мільёны жыхароў, у тым ліку 800 тысяч дзетак.

Вынікі радыяцыі ўжо цяпер вельмі адчувальныя. Адным з найбольш сур'ёзных трэба лічыць узрост ракавых захворванняў, у тым ліку лейкозных, колькасць якіх павялічылася на 30 працэнтаў у параўнанні з 1986 годам. Апошнім часам назіраецца трывожны ўзрост выпадкаў рака шчытавіднай залозы. Сярод іншых вынікаў можна ўспомніць захворванні дыхальных органаў, хваробы сэрца, страта імунітэту, анемія, парушэнне нервовай сістэмы і г.д. Чарнобыльская трагедыя адмоўна адбілася на псіхічным стане насельніцтва, якое жыве ў абстаноўцы пастаяннага напружання (стрэсу) і няпэўнасці будучыні. Усё часцей гаворыцца пра эканамічныя і сацыяльныя аспекты трагедыі, у тым ліку пра трагічны спад нараджэнняў. Вучоныя баяцца генетычных змяненняў у храмасомах людскіх клетак, але гэтыя змены будуць адчувальныя толькі ў другім або трэцім пакаленні. Сярод жывёл, жыццёвы цыкл якіх карацейшы за чалавечы, такія змяненні ўжо назіраюцца.

Такім чынам, Беларусь будзе мець праз доўгі час "памятку", якая не дасць забыцца пра савецкую сістэму. Бо трэба сказаць ясна, што адказнасць за чарнобыльскую катастрофу і яе вынікі нясуць улады былога Савецкага Саюза, паколькі развіццё атамнай індустрыі залежала ад Цэнтра. Яны адказныя за недазвалятьныя доследы на электрастанцыі, якія былі непасрэднай прычынай катастрофы. Яны адказныя за крымінальнае трохгадовае маўчанне і затойванне ад насельніцтва праўдзівага стану рэчаў. Калі ж пад націскам грамадскай думкі яны былі павінны прызнацца, то ўсякімі спосабамі стараліся зменшыць сур'ёзнасць вынікаў трагедыі.

Шмат гаворыцца ў нашы дні аб экалогіі і аб правах чалавека. Гэтыя дзве рэчы маюць паміж сабою самую непасрэдную сувязь. Асноўным правам чалавека ёсць права на жыццё. Вымушанае знаходжанне ў асяроддзі, шкодным для здароўя, супярэчыць гэтаму праву, а свядомае замоўчванне сапраўднага стану рэчаў -- нічым іншым як крымінальным злачынствам.

Ніхто не пацягне да крымінальнай адказнасці кіраўнікоў былой Савецкай Імперыі. Але трэба, каб грамадскасць вынесла ім маральны прысуд.

Такім чынам, разам з незалежнасцю беларусы атрымалі ў спадчыну і чарнобыльскую бяду, якая напаткала іх не з іхняй віны, але з якою ім самім трэба будзе змагацца. Ці справяцца яны з ёю? Думаю, што тут не можа быць іншага адказу, апрача станоўчага, бо інакш няма чаго гаварыць не тое што аб незалежнасці, але пра само існаванне нацыі.

Абнадзейвае тое, што беларусы, нарэшце, з'яўляюцца гаспадарамі ў сваёй краіне і не павінны пытацца дазволу Цэнтра. Такім чынам, яны могуць усвядоміць веліч праблемы і старацца знайсці адпаведныя спосабы, каб справіцца з ёю.

Іншая рэч, якая дае надзею, гэта водгук сусветнай грамадскасці на чарнобыльскую бяду. Сёння, мусіць, няма такой краіны, якая б не чула пра Чарнобыль і не паспяшалася на дапамогу яе ахвярам. Веліч дабрыні, якая знаходзіцца сярод людзей, не можа пакінуць нас абыякавымі. Больш таго, яна нам дае зразумець, што свет адзін і што мы ўсе дзеці адной сям'і, у якой дзелім з усімі радасць і боль. Яна таксама дапамагае аднавіць веру ў чалавека, без якой няма веры ў Бога, бо Бог сам паверыў у нас так, што стаўся адным з нас і аддаў сябе за нас.

І гэта аснова нашай надзеі.

Айцец Аляксандар Надсан.
("Чарнобыль у Беларусі").

# "СВЕТ ПАСЛЯ ЧАРНОБЫЛЯ"

## Кангрэс пад такой назвай адбыўся днямі ў Мінску






**Мітрапаліт Філарэт, патрыяршы экзарх Беларусі:**

— У сваім прывітальным слове я хачу пажадаць блаславёнага поспеху кангрэсу і міласці Боскай. Спадзяюся, што ўдзел служкаў царквы ў кангрэсе будзе карысным, бо з першага моманту той трагедыі, гадавіну якой мы адзначаем ужо ў шосты раз, царква засведчыла сваё суперажыванне і ўнесла пасільны ўклад у агульнанароднае супрацьстаянне гэтай бядзе. Са святам святой Пасхі, з радасным святам супадае ў гэтым годзе шостая гадавіна. Нябесны гром нечакана грымнуў над нашай зямлёю. Пэўна, міне яшчэ шмат год, на працягу якіх мы будзем асэнсоўваць гэтую бяду. Кангрэс, безумоўна, дасць навуковую і грамадскую адзнаку таму, што адбылося, але нельга забываць і духоўны аспект трагедыі. Наш гонар вёў нас памылковым шляхам даследавання прыроды. Навука, якая адвяргае Бога і прыводзіць нас на памылковыя шляхі пазнання Боскага тварэння, можа несці ў сабе толькі трагедыю. Мы казалі: "Няма чаго чакаць літасці ад прыроды". І вось прырода стамілася чакаць літасці ад людзей і адпомсціла ім.

Шматлікія хрысціянскія арганізацыі адгукнуліся на бяду нашага народа і пасільна дапамагалі яму пераадольваць навалу. Царквою было пабудавана шмат храмаў у зонах, забруджаных радыяцыяй. Адкрыўся нават адзін жаночы манастыр — у Хойніках, манахіні якога паставілі сабе мэту — дапамагаць пацярпеўшым ад радыяцыі. І разам з усімі імі і тымі, хто знаходзіцца ў гэтай зале, разам з людзьмі ўсяго свету я хачу ўзнесці малітву тым, хто пацярпеў ад Чарнобыля.

**Са сваёй адзнакай падзей і з прывітальным словам да кангрэса выступіў пісьменнік Васіль Быкаў.**

— Мы жывём у той час, які з цяжкасцю паддаецца асэнсаванню грамадскай думкай, вызначэнню чалавечым розумам. Хаос свядомасці, абвостраная адвечная барацьба дабра і зла сталі пануючымі ў нашым існаванні. Зло ніколі само не знікне, і варта чалавеку паддацца самазадаволенасці, як зло нагадвае нязменнай сваёй уладарнасцю. Напамін гэты помслівы, злы і балючы. Такім напамінам зла чалавеку стала чарнобыльская катастрофа. Так, выдатная справа — навукова-тэхнічная рэвалюцыя. Але, але... Усе гэтыя здабыткі ператвараюцца ў пачварствы, калі грамадства грэбуе Боскімі запаветамі, калі агульначалавечыя каштоўнасці падмяняюцца ідэалагічнымі утопіямі. Ствараецца д'ябальская неадэкватнасць форм зямнога існавання. Свет атрымаў фору і спыніўся на самым краі бездані. Можа нам хопіць розуму, каб успрыняць Чарнобыль як папярэджанне і аб'яднаць свае сілы ў барацьбе з гэтым злом, з яго наступствамі.

*26 красавіка 1986 года. Гэтая дата сёння ўсё часцей узнікае на старонках друку і проста ў размовах людзей. Сёлета мы адзначаем шостыя ўгодкі аварыі. Сумнае свята, трагічнае. Увесь свет дапамагае нашай краіне пераадолець вынікі гэтай жудаснай трагедыі. Толькі ці ўсё робіцца для гэтага? Ці ўсю праўду мы ведаем пра Чарнобыль, ці не ілюзорныя тыя веды, якімі мы валодаем, як і той свет, у якім мы жывём? На гэтае і іншыя пытанні, якія штодня ўзнікаюць перад людзьмі Беларусі, спрабаваў адказаць кангрэс "Свет пасля Чарнобыля", які праходзіў з 13 па 17 красавіка ў Мінску. Галоўным арганізатарам гэтага кангрэса з'яўляецца дабрачынны фонд "Дзецям Чарнобыля". Прадстаўнікі ўсяго свету — дабрачынных арганізацый, хрысціянскіх цэркваў, афіцыйных устаноў — сабраліся ў гатэлі "Юбілейны", каб абмеркаваць сённяшні стан чарнобыльскай праблемы.*

**Сказалі свае слова і прадстаўнікі замежных краін і замежных арганізацый. Пасол ФРГ у Беларусі сп. Краўс вызначыў справу, якую робяць сёння беларускія і замежныя дабрачынныя арганізацыі, як найважнейшую і найгуманнейшую.**

— Наступствы чарнобыльскай аварыі яшчэ невядомы канчаткова, праявы яе яшчэ толькі адбіваюцца на нашым жыцці, і небяспека гэтая з кожным днём павялічваецца. А цікавасць людзей да гэтай трагедыі і да таго, што адбываецца зараз у раёнах, забруджаных радыяцыяй, з кожным днём усё памяншаецца, — сказала Эрыка Шухард, прадстаўнік асацыяцыі нямецкіх цэркваў. — У гэтай сувязі я хачу адзначыць дзейнасць фонду "Дзецям Чарнобыля", які прысылае да нас у Германію беларускіх дзяцей на лячэнне. Толькі тады, калі вы на свае ўласныя вочы пабачыце дзяцей з гэтых раёнаў, калі пачуеце з іх вуснаў расказ пра тое, як яны жывуць, вы ніколі не забудзецеся на гэтую трагедыю, не пажадаеце адмахнуцца ад яе.

Прадстаўнік швейцарскай асацыяцыі "Дапамога дзецям Чарнобыля" Рамонда Росі выступіў з прапановай правесці сусветны кангрэс, прысвечаны чарнобыльскай трагедыі і пытанням дапамогі забруджаным радыяцыяй раёнам.

Сын сусветна вядомага пісьменніка Генрыха Бёля Рэнэ Бёль вызначыў аварыю на Чарнобыльскай станцыі і асабліва тое, у якіх умовах жывуць па сённяшні дзень людзі ў раёнах Магілёўскай і Гомельскай абласцей, пацярпелых ад радыяцыйнага забруджвання, як парушэнне правоў чалавека.

Прадстаўнікі Інстытута радыёфізікі Беларусі выступілі з дакладам аб стане і ўзроўні забруджвання радыенуклідамі беларускіх земляў. Сітуацыя, паводле іх звестак, складваецца значна горшая, чым мы ўяўлялі сабе нават да апошняга часу.

На наступны дзень усе ўдзельнікі кангрэса, заходнія журналісты па ініцыятыве фонду "Дзецям Чарнобыля" адправіліся ў вандроўку па раёнах Гомельскай вобласці, каб на свае вочы пераканацца ў маштабах той трагедыі, што напаткала беларускі народ. Аб усім тым, што яны ўбачылі, неаднаразова паведамлялі органы інфармацыі. Але зусім іншае ўбачыць самім пакінутыя вёскі, дзяцей, якія не ведаюць, што такое радасць гульняў на свежым паветры: ім нельга выходзіць у лес, нельга есці яблыкі з яблынь пад акном, нельга піць малако. Іх шлях ад школы да хаты — усё навокал "свеціцца" радыяцыяй.

Безумоўна, гэта вельмі ўразіла дэлегатаў. Яны здзіўляліся, чаму гэтыя людзі па сённяшні дзень жывуць у такіх умовах. І што ім можна было на гэта адказаць? Канешне, пасля свайго вяртання на радзіму яны зробяць усё, што ад іх залежыць, каб дапамагчы беларусам, пацярпеўшым ад радыяцыі. У гэтым будзе іх грамадзянскі абавязак, як сказала мне карэспандэнтка бельгійскай газеты. А што зробім мы?

Зм.Лукашук.

# «САМАСЁЛЫ»











ЧАТЫРЫ гады таму пра вёску Сабалі пісалі многія газеты, у тым ліку і наша. Тады тут з'явіліся першыя "самасёлы" — тыя, хто вяртаўся ў свае дамы. Вярталіся таму, што не прыжыліся на новым месцы; прычым вярталіся ў асноўным старыя.

Уладам прыйшлося скарыцца з імі і прапісаць у іхнія ўласныя дамы. Цяпер у вёсцы жыве больш чым 100 чалавек. Адкрылі краму, адрамантавалі былы дом старшыні калгаса і зрабілі ў ім утульную пачатковую школу, у якую ходзяць сем вельмі дружных паміж сабою дзетак.

Фота С.Брушко.

# БЕЛАРУСКІ КАЛЯ




1/18. (красавіка ст.ст.). **Кузьма** ("У дзень святога Кузьмы сеюць моркву і буракі").

4/21. ***Радунічныя Дзяды,** Дзяды перад Радаўніцай.

5/22. **Ляльнік,** язычніцкае свята ў гонар Лады.
***Радуніца. Радаўніца,** аўторак пасля Вялікадня ("На Радаўніцу да абеду пашуць, па абедзе плачуць, а к вечару скачуць").

6/23. **Юр'е, Юрай, Ягорый,** свята выгану жывёлы ў поле ("На Юр'я каб сена было і ў дурня", "Калі прыйдзе Юры, не ўгледзіш у жыце куры").

7/24. **Алісей, Аўсей** ("Прыйшоў Алісей — авёс пасей").

8/25. **Станіслаў**[1] ("Сей лён на Станіслава — вырасце як лава").

10/27. Абрад выезду ў поле **Ярылы. Ярылавіца** — святкаванне ў гонар язычніцкага культу веснавой урадлівасці і плоднасці жанчыны (да Пятра). ***Міраносцы,** трэцяя нядзеля ад Вялікадня ("На Міраносцы п'яны бабы цігаюць адна адну за валосця").

11/28. **Пранціша.** Калі 11-га мокра — усё лета мокрае, а суха — усё лета сухое.

13/30. **Якуб** ("На Якуба грэе люба").

14/1 (траўня па ст.ст.). **Макарэй.**

15/2. **Барыс і Глеб,** апекуны веснавых палявых работ ("Ляды паліць, зямлю грэець, ячмень сеець").

18/5. Пачатак ***Пераплаўнага, Чарвівага, тыдня,** чацвёрты тыдзень ад Вялікадня.

20/7. ***Градавая серада, Перапалавенне,** серада на Пераплаўным тыдні.

21/8. **Іван Веснавы, Мікольнік, Іван Доўгі, Бацька Міколы** ("На Івана каласок, а на Пятра піражок").

22/9. **Мікола,** свята пастухоў ("Па межах ходзя і ўсё родзя, і траву расціць, і кот пасціць").
**Алёна, Галена** ("Сей лён на Галену, то будзе кашуля па калена").

23/10. **Зілот** ("Сей пшаніцу, і яна будзе як злата").

24/11. **Кірыла і Мяфод.** Калі дзень мокры — і лета будзе мокрае, калі сухі — усё лета сухое.

27/14. **Сідар** ("Прыйшлі Сідары, прыйшлі і сіверы").

28/15. **Пахом** ("Сей агуркі на Пахом — будзеш насіць мяхом").

29/16. **Магдалена** ("Магдалена зязюльку прысылае").

31/18. **Сем Дзеў. Канапелька Матруна** ("На сем Дзеў лён сей позні", "Канапелька Матруна ў зямлю махнула").
**Фядот** ("Як на дубе апушка, у Фядота поўная аўса кадушка").

---

*Зорачкай абазначаны каляндарныя дні, якія не маюць пастаяннага месца, а залежаць ад Вялікадня.

[1]Рысай выдзелены святы і прысвяткі беларусаў-каталікоў.

Алесь Лозка.
Малюнак Шлегель-Лавецкай.

# ХРЫСТОС УВАСКРЭС!

У двары і ў дзядзінцы,
У кватэры і ў хаты,
У сэрцы і ў душы
Нахлынула свята!

Святкуем Вялікдзень,
Як Дзень Вызвалення
Сумлення.
О, слодыч
Свабоды сумлення!

Смуткуем Вялікдзень —
Дзень Памяці Светлай
Аб тых, хто прыгожа
Глядзіць з таго свету:

Каб зноў атэізму
Нячыстая сіла,
Кіруючай стаўшы,
Людзей не касіла
У святле асляпляльным
Вялікіх рашэнняў...

Святкуем Вялікдзень
Любові Уваскрашэння!

Любові,
Што ганебна
Не дасць памыліцца, —
Як ідалам тым,
Ідэалам маліцца!..

Станіслаў
Валодзька.

*Вось і дачакаліся мы светлых дзянёчкаў. Вялікдзень, у рэшце рэшт, абвешчаны афіцыйным святам. Адышлі ў нябыт тыя часы, калі яно было "забабонам", "перажыткам мінулага". Але ў гэтым годзе Вялікдзень супаў з другой чорнай для жыхароў Беларусі датай. Мы адначасова будзем адзначаць і 6-я ўгодкі катастрофы на Чарнобыльскай АЭС. Светлае і цёмнае. Радасць і гора. Жыццё і смерць. Няўжо ніколі не парвецца гэты ланцуг? Няўжо ніколі не зажывуць беларусы ў радасці і весялосці? Хто ведае, можа адна з прычын усеагульнага крызісу, які ахапіў наша грамадства, гэта тое, што мы забыліся пра спрадвечныя каштоўнасці, пра неабходнасць берагчы перададзенае нам продкамі. Дык успомнім жа іх запаветы і "возлюбим ближнего своего, яко себя самого". Скажам жа і сабе, і тым, хто жыве вакол нас: "Хрыстос уваскрэс!"*

*Аб тым, як рыхтаваліся ў мінулыя часы да Вялікадня, як праводзілі гэта свята, расказваецца ў наступным артыкуле.*

## УСПАМІНЫ БАБУЛІ

Першай прыкметай вясны былі "жаўрукі" — смачныя булачкі ў выглядзе птушак, з вочкамі з разінак. Іх пяклі ў нас на "сорак мучанікаў"— 9 сакавіка.

Больш цікавым быў звычай на свята Благавешчання выпускаць на волю птушку, у памяць пра тую радасць, якую прынесла ўсяму свету звестка, што хутка народзіцца Ратаўнік.

Ездзілі мы з нянькай на базар. Там прама на вуліцы сядзелі гандляры, а каля іх настаўлена было шмат клетак з птушанятками. Доўга выбіралі мы птушку, спрачаліся, якую лепш купіць "на выпуск": калі ўзяць слабенькую, маленькую, то яе, можа здарыцца, вераб'і заклююць; лепш вось гэтую, што так жвава падскоквае. Нарэшце, птушка абраная, і мы накіроўваемся з клеткай у руках у бліжэйшы парк. Асабліва добра я памятаю адзін год. Адчынілі мы клетку, а птушка не вылятае, сядзіць надзьмутая і не рухаецца. Мы глядзім на яе — не ведаем, што рабіць. І раптам дзесьці на дрэве птушка цвыркнула. Наша палонніца страпянулася, асцярожненька скок-скок да адчыненых дзверцаў. Зноў цвыркнула птушка на дрэве — і тут наша шэранькая ўзмахнула крылцамі і паляцела, прама, як страла, уверх, на самую вяршыню вялізнага дрэва. Такая радасць была ў яе палёце, што нават я зразумела, як добра святкаваць тую цудоўную звестку, якую прынёс анёл Дзеве Марыі.

У памяці маёй птушыны кірмаш звязаны з вербным базарам. Куплялі на ім, канешне, вярбу, каб ісці разам з ёю ў царкву на ўсяночную; звязаную пукамі, а да пука вярбы прывязана было ўпрыгажэнне — папяровы анёльчык. Так ён і зваўся — "вербны херувім". Мы, вядома, гулялі з пруцікамі вярбы, і былі нават прыказкі: "вярба белая б'е за справу, вярба чырвоная б'е дарэмна, вярба б'е да слёз".

Акрамя вярбы, прадаваліся на базары розныя рэчы да Вялікадня — папяровыя кветкі, каб упрыгожваць кулічы і пасхі, і самае для нас вясёлае — цацкі, якіх нельга было купіць у іншы час. Адна такая цацка называлася "жыхар". Гэта была шкляная, запаяная з абодвух бакоў трубка, у якой плаваў маленькі шкляны "жыхар". Унізе трубкі была дзірка, зацягнутая гумавай плёнкай. Калі надавіць на плёнку, "жыхар" апускаецца на дно трубкі; адпусцілі — ён зноў падымаецца.

Прадаваліся таксама маленькія малпачкі на шпільках. Іх можна было прышпільваць сабе на паліто альбо капялюшык. Мы збіралі цэлыя калекцыі такіх малпачак — зялёных, сініх, жоўтых, з пёркамі, з пацеркамі.

А вечарам у царкву мы ішлі з пукамі вярбы ў руках і стаялі ў час службы з запаленымі свечкамі. Калі надыходзіў час асвячаць вербы, бацюшка абыходзіў усю царкву знутры, і ўсе высока падымалі свае вербы і свечкі, каб на іх трапілі кроплі святой вады.

У перадвялікодны Чацвер мы, дзеці, фарбавалі яйкі шалупіннем ад цыбулі і спецыяльнымі мармуровымі паперкамі, купленымі ў крамах. А самыя вынаходлівыя размалёўвалі іх фарбамі. Адмывалі рукі нашатырным спіртам, вочы сляпіліся ад моцнага паху, а пальцы так і заставаліся рознакаляровымі. Такімі рознакаляровымі пальцамі трымалі мы ў царкве свечкі і кніжачкі, па якіх сачылі за чытаннем 12 Евангелляў, і да самага сэрца даходзілі словы аб тым, як пакутаваў і памёр Гасподзь.

А потым неслі свечкі дамоў, паперай і рукамі ахоўваючы ад ветру. Дома запальвалі лампадкі, а па-над дзвярыма капцілі крыжыкі.

Калі мы з братам былі маленькія, нас не бралі ноччу ў царкву на велікодную службу. Мы з ім наладжвалі цэлую святочную цырымонію дома, пра якую, здаецца, дарослыя нічога не ведалі.

Мы выпрошвалі ў нашай кухаркі маленькія кулічы і пасху "для сябе", адкладвалі некалькі яек з тых, якія мы самі фарбавалі. У нашым дзіцячым пакойчыку мы накрывалі наш столік, а, кладучыся спаць, ставілі гадзіннік на 12 ночы. Памятаю, як мы выскоквалі з ложкаў, адчынялі акно і, курчачыся ад холаду, чакалі першага ўдару званоў. "Бом...бом...бом..."— даносіўся першы ўрачысты перазвон. Мы з братам укленчваліся перад іконай і гучна спявалі "Хрыстос уваскрэсе з мёртвых", потым хрыстосаваліся і садзіліся за нашае снеданне.

На наступны дзень накрываўся вялікі, цудоўна аздоблены велікодны стол, з'язджаліся ўсе родзічы, усе хрыстосаваліся і дарылі адзін аднаму яечкі: і драўляныя, і шакаладныя, і каменныя, і маленькія срэбраныя, залатыя, якія дзяўчаты прымацоўвалі да ланцужкоў і насілі на шыі, як каралі.

Канешне, мы яшчэ мала разумелі сэнс "свята святаў", але ўжо тады адчувалі яго радасць.

Занатавала
Н. Чарнабай.





# Могілкі платоў

Далёка ад шляхоў на вялікай лясной палянцы ляжыць гара драўлянага хламу. Існуюць могілкі караблёў, аўтамабіляў, цягнікоў; тут — могілкі агароджаў. Збіралі іх з вёсак і звозілі ў адно месца ў тыя страшныя вясну і лета восемдзесят шостага года. Сярод шчытоў ляжаць рукамыйнікі, пад якімі ніхто не будзе ўмывацца, ліхтары, якія нікому не асветляць шлях, паштовыя скрынкі, у якія паштальён ніколі не пакладзе ліст.

А калі адкінуць сентыментальнасць, дык гэта маленькі Чарнобыль, які можа ўзнікнуць ад выпадковай запалкі. І прыбраць яго пакуль ніхто не спяшаецца.

Фота С. Брушко.







## Падарожжа мерцвякоў



Пад час прэм'еры "Плыта мерцвякоў", спектакля Алега Жугжды паводле п'есы Харальда Мюлера, — мастацтва і чарнобыльскія прывіды мусілі шукаць паразумення на маленькай сцэне лялечнага тэатра ў Брэсце...

Спектакль, дзе марыянеткі церпяць ад чалавека, за чалавека, дзеля чалавека. Спектакль, дзе ўвасабляецца дзіўна-дзікунскі эксперымент: людзі мадэлююць для сваіх стварэнняў сітуацыю радыяцыйнай аблогі, гэткі постчарнобыльскі свет. Купка эксперыментатараў (медыкаў аддалена нагадваюць іхнія зялёныя апранахі) назірае за існаваннем... чалавека? марыянеткі? істоты боскай? у звышненатуральных для жыцця і выжывання варунках; людзі-лялькі імкнуцца ў адзінае, на іхні розум, малазаражанае месца, напалову міфічны горад Ксантэн, ладзяць плыт, спяшаюцца, кахаюць, пакутуюць, высільваюцца, адчайваюцца, ваяўніча і бессэнсоўна забіваюць аднаго свайго спадарожніка, каб у хуткім часе пераканацца ў бессэнсоўнасці нараджэння іншага...

Умоўнае ды сапраўднае працялі адно аднае. Нямецкая п'еса разыгралася ўжо не на пляцоўках — на беларускіх абшарах. У п'есе той, як, зрэшты, і ў спектаклі Алега Жугжды, да Ксантэна здані дапływуць каб... не патрапіць туды. Плыт кіруецца ў акіян, каб перакуліцца разам з вандроўнікамі. Затое ў спектаклі (як і ў жыцці) застаюцца людзі. Яны паставілі эксперымент і пераканаліся, паводле рэжысёрскага вырашэння, у непераможнасці чалавечага ў чалавеку.

Жана Лашкевіч.
(Фота з архіва тэатра).

# АРСЕНІЙ ВАНІЦКІ: "НАМ ПАТРЭБНЫ ЛЕКІ"



*Гэты знешне невялічкі палац у стылі постсталінісцкага мадэрна прываблівае менчукоў большым часам тады, калі вуліца Захарава насупраць інстытута замежных моў суцішвае рух, праязджаючыя побач аўтобусы велікашаноўна прытармошваюць, а нямецкае консульства становіцца нябачным з вокнаў рэдакцыі часопіса "Полымя". Караван з некалькіх замежных грузавікоў у суправаджэнні машыны тамтэйшай дарожнай паліцыі спыняецца каля Таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі.*

*— Гулманіталную дапамогу плывезлі,— тлумачыць мне вучань першага класа суседняй школы, які крочыць у бліжэйшую булачную набываць за 26 рублёў шакаладку "MARS", якая, пэўна, трапіла сюды акурат па лініі гуманітарнай дапамогі.*

*"Гуманітарную дапамогу!?"— пытаюся я сам у сябе і накіроўваюся да ганка, каб разгледзець яе лепей. Але дарма. Калі й дзе выгружаецца "гум.дапамога", ведаюць толькі гаспадары невялічкага палаца ў стылі постсталінісцкага мадэрна. Раней, да перабудовы, сюды можна было трапіць хіба толькі зрабіўшы пластычную аперацыю на вочы і спрактыкаваўшыся гергетаць па-в'етнамску. Цяпер жа былыя супрацоўнікі самі цудоўна перавучыліся выказваць думкі па-беларуску, а дзверы ў палацы аказаліся адчыненымі не толькі для шаноўных, паважаных, цудоўных, прыгожых, багацenькіх, шчодранькіх іншаземцаў, але і для карэспандэнта беларускамоўнай газеты. На яго пытанні адказвае старшыня таварыства А. М. ВАНІЦКІ.*

**— Арсеній Мікалаевіч, ля ганка вашага таварыства амаль штодзённа бачны караваны грузавікоў з іншаземнымі нумарамі. Цікава, а што там, пад брызентам?**

— Гуманітарная дапамога. І не маленькая. Толькі за першы квартал гэтага года, паводле падлікаў іншаземцаў, рэспубліка атрымала праз наша таварыства тавараў на суму каля 2 мільёнаў даляраў. У мінулым годзе гэтая лічба вагалася каля 10 мільёнаў. Характар грузу розны. Тут і спісаныя рэчы былой арміі ГДР, і гумавыя пальчаткі для хірургаў, і мыліцы, і тыповыя харчовыя камплекты.

**— Прабачце, а што ўваходзіць у гэтыя камплекты?**

— Як правіла, гэта адна-дзве бляшанкі кансерваў мясных, адна-дзве — рыбных, пакет гарбаты або кавы, усялякія прысмакі, шакалад, да прыкладу. Нават пачкі цукру і солі ўваходзяць у гэтыя камплект. Немцы народ педантычны: калі ў мінулым годзе ўсе камплекты каштавалі роўна 46 нямецкіх марак, дык сёлета — 40... Бывалі выпадкі, калі прывозілі цукар і ў мяхах. Вось у мінулым месяцы былі перададзены 20 тон цукру, рысу, мукі і г.д., затараных у мяхі хрысціянскай арганізацыі евангелістаў-баптыстаў.

**— Так мы пакрысе кранаем і наступнае маё пытанне: між кім размяркоўваецца гуманітарная дапамога?**

— У тым самым канвоі знаходзіліся два грузавікі лекаў для 2-й бальніцы г.Мінска, была адна "фура" для дзвюх дзіцячых клінік. Тут трэба адзначыць, што апошнім часам пастаўкі робяцца мэтанакіраванымі і немцы сочаць за выкананнем канкрэтовага размеркавання. Вось, напрыклад, у мінулым канвоі чатыры грузавікі прызначаліся для райцэнтра Дуброўна, бо ў іх наладжаны прамыя сувязі з нямецкім горадам Бад-Ольдэсноэ. Але мы ў гэтым выпадку параілі нямецкім прадстаўнікам "падзяліцца" з яшчэ двума раёнамі. Яны былі не супраць.

**— А калі адсутнічае канкрэтовы адрасат?**

— Тады мы раімся з прадстаўнікамі медыцынскіх або адукацыйных устаноў і прагнем размеркаваць груз як мага шырэй па рэспубліцы. Да прыкладу, у мінулым годзе мы атрымалі з Індыі цэлы "РУСЛАН", запоўнены медыкаментамі і прадуктамі харчавання. З таго самалёта атрымала 105 тон "гасцінцаў" каля 50-ці раёнаў рэспублікі.

**— А ці адважваецеся вы рабіць рэкамендацыі ў замежны бок наконт больш неабходных рэчаў?**

— Так, апошнім часам мы просім не дасылаць нам прадукты харчавання. Пасылка — добра, але лекі лепей! Многія шпіталі дамагаюцца ад нас шпрыцаў, антыбіётыкаў, анальгетыкаў і г.д. Таму мы і звярнуліся да спадароў з ЗША, Нямеччыны, Італіі, Францыі наконт лекаў. І гэта мела свой водгук. З Нямеччыны нам паставілі, напрыклад, адзінаццаць ультрагукавых сканераў, а з Італіі — два інфузаматыкі. Спецыялісты ведаюць, наколькі каштоўнымі з'яўляюцца гэтыя прыборы. Сюды ж трэба дадаць і электраміёграфы, і кардэапомпу, якую мы атрымалі два гады таму са штата Мінесота.

**— Арсеній Мікалаевіч, колькі ж краін, з пункту гледжання статыстыкі, аказалі дапамогу Рэспубліцы Беларусь?**

— У нашым фае вы павінны былі заўважыць два стэнды, якія я нават назваў бы іканастасамі... На іх нанесены каля сямідзесяці прозвішчаў грамадзян розных краін, напрыклад, Поля Мора, Дональда Кэрнса, Джудзіт Гаран з ЗША або Хінрыха Фольштэта з Нямеччыны, грамадзян Аўстраліі, Канады, Індыі і г.д. Увогуле дзесяткі краін аказваюць нам гуманітарную дапамогу, але не ў роўнай ступені. Самыя вялікія акцыі ажыццяўляе нямецкі "Рабочы Саюз Міласэрнасці" з зямлі Шлезвіг-Гольштэйн, паводле прыкладных падлікаў, яны паставілі нам тавараў на суму каля 10 мільёнаў даляраў. На другім месцы па маштабнасці дапамогі ідуць школа "Рамапо" з горада Спрынт Вэлі, што пад Нью-Ёркам і дабрачынная арганізацыя са штата Мінесота, якую ўзначальвае Рычард Фолк. У мінулым годзе школа "Рамапо" і шпіталь Добрых самарыцян акругі паставілі нам медыкаментаў на суму каля 1 мільёна даляраў. Вялікую ўвагу мы адчуваем і з боку французскіх "Народнай дапамогі" і "Фармацэўтаў без межаў", а таксама ад італьянцаў з правінцыі Пардэнонэ і Удэнэ. Але не толькі арганізацыі дапамагаюць нам. Ёсць і прыватныя асобы. Як не назваць Стэнлі Скарыну, нашчадка нашага славутага першадрукара, які наяўнымі ўнёс тысячу даляраў на нашыя патрэбы? Як не прыгадаць прафесара Леанарда Райфла, амерыканца, які жыве ў Чыкага і знакаміты тым, што кіраваў праектам па высадцы чалавека на Месяцы, а таксама быў у складзе кіраўнікоў праекта "Саюз—Апалон"? Ён ахвяраваў 500 даляраў. Джон Камерон, галоўны радыёлаг штата Мінесота, ахвяраваў нам восемдзесят тэрмалюмінесцэнтных дазіметраў...

**— У свой час тутэйшая прэса асвятляла паездку аднаго хворага хлопчыка на лячэнне ў Італію. Ці не вашай установай праводзілася такая акцыя?**

— Так. То быў хворы на лейкемію Андрэй Бралка. Перад ягонай паездкай мы дамовіліся з італьянскім бокам аб правядзенні гастроляў нашых "Харошак", каб аплаціць лячэнне хлопчыка. Першыя выступленні далі нам прыбытак у 30 тысяч даляраў. Мы змясцілі гэтыя грошы ў лепшую клініку Трыеста, дзе Андрэю і была зроблена аперацыя па перасадцы касцявога мозга прафесарам Марына Адоліна. Пры гэтым трэба мець на ўвазе, што падобная аперацыя абыходзіцца хвораму ў 100-200 тысяч даляраў... Апроч "Харошак" па нашай ініцыятыве выступаў у ЗША і Францыі Дзяржаўны ансамбль танца пад кіраўніцтвам В.Дудкевіча. Частка атрыманай валюты пералічана на рахунак Цэнтра трансплантацыі касцявога мозга ў Мінску і на патрэбы базы адпачынку для "чарнобыльскіх дзяцей", якая будуецца ў Венгрыі, на месцы размяшчэння вайсковай часці СА.

**— Такім чынам, акцыі гуманітарнай дапамогі, калі можна так выказаца, рыхтуюцца дома?**

— Так, так. Гуманітарная дапамога — гэта не заўсёды экспромт нашых замежных добразычліўцаў. Гэта падрыхтаваная акцыя. Вось мяркуйце. Мы падрыхтавалі дзве фотавыставы "Чорная быль", размножылі колькасць здымкаў, суправадзілі іх адпаведным тэкстам і накіравалі ў семдзесят краін свету. Дапамога не прымусіла сябе доўга чакаць.

**— Складваецца ўражанне, Арсеній Мікалаевіч, што ўсё ідзе гладка і няма злоўжыванняў на глебе гуманітарнай дапамогі...**

— Не, праблемы і адмоўныя працэсы пад час размеркавання гуманітарнай дапамогі існуюць. Скандалам і судом скончылася гісторыя ў Брагінскай райбальніцы, калі тамтэйшы галоўурач пераблытаў сваю кішэню з дзяржаўнай. Днямі вось абрабавалі вадзіцеля нямецкага канвою. Грузавікі вярнуліся з Дуброўна пустымі, але злодзеі гэтага не ведалі. Не знайшоўшы нічога ў кузаве, яны разбілі шкло кабіны... Не можа нас не хваляваць і тое, што часам гуманітарная дапамога ідзе сістэматычна, мэтанакіравана на адзін і той жа адрас прыватнай асобы. На дзіва часта ідуць пасылкі, прызначаныя радыёаматарам-мікрахвалевікам. Што ў іх, мы не ведаем... Карацей кажучы, уцечка гуманітарнай дапамогі і з'яўленне яе ў лётамках кааператараў хутчэй за ўсё адбываецца з-за адсутнасці кантролю на ніжэйшых паверхах размеркавання.

**— Арсеній Мікалаевіч, больш за год назад наша газета назвала вас Алегам Ваніцыным. Прыкрая недарэчнасць, якая з цягам часу выклікала ўсмешку, пэўна, і ў Вас. Мае прабачэнні ад імя ўсёй рэдакцыі. А з гуманітарнай дапамогай адбываюцца тыя ці іншыя "канфузы"?**

— Прабачэнне прымаю. Так, жыццё без гумару было б сумным. Можаце занатаваць для вашага "Гарчычніка" такія смешныя недарэчнасці. Аднаго разу да нас былі прысланы вітаміны, тэрмін захавання якіх канчаўся ў тым жа месяцы. Але больш "пасажным" аказаўся выпадак, калі я не ведаў, што рабіць з дасланай скрыняй і куды яе накіраваць. У скрыні знаходзіліся... м-м-м... спецыяльныя гумавыя прыстасаванні дробных памераў для спецыяльных далікатных мэтаў. Але "першае месца" я аддаў бы процізачаткавым таблеткам з Польшчы, тэрмін скарыстання якіх ужо даўно скончыўся.

Інтэрв'ю вёў Андрусь Смірны.

Фотаздымак Ванды Альшэўскай.

# ГОРАД МІНУЛАГА

На шляху з Брагіна у Камарын ёсць кінуты вайсковы гарадок хімікаў. Рады калісьці дыхтоўных домікаў, склады, клуб, сталовая — усё разбурана і разрабавана. Побач з гэтай дарогай наогул шмат вёсак разрабавана — цягнуць шыфер, жалеза з дахаў, будматэрыялы.

У часовым гарадку ўражвае мноства "сродкаў прапаганды і агітацыі". Дзіка глядзець на лозунгі, што ўсхваляюць партыю і славутых воінаў-хімікаў, сярод гэтай разрухі. Грошай на лозунгі хапала, ды не знайшлося на тое, каб закапаць кінутую маёмасць, якую разам з радыяцыяй рабаўнікі расцягваюць па ўсёй рэспубліцы.

Фота С.БРУШКО.














(Працяг. Пачатак у № 16)

### Ліст другі:

*"...Мне здаецца, я памятаю ўсё... Водар кавалачка дыні, які мама аднойчы прынесла. Я запомніла яго назаўсёды. Памятаю, як хлопчыкі паклікалі мяне гуляць з кошкай: "Ты яе пагладзь. Яна жывая". Мне было ўжо сем гадоў, але я ніколі не бачыла кошку. Кошак у лагеры не было. Памятаю, як мама хацела даць мне цукеркі, а ахоўнікі яе не пускалі. Яна крычала: "Галуша, вазьмі цукеркі". Мне было страшна: я не ведала, што такое цукеркі. Ніхто з дзяцей не ведаў, што такое цукеркі. Мне сказалі: "Бяжы. Хавайся". А мама мая крычала: "Галуша, вазьмі цукеркі".*

*Калі ў мяне пыталі: "Адкуль ты, дзяўчынка?", я адказвала: "З зоны...". "Пазазона" — гэта быў іншы свет, нешта незразумелае, страшнае. Мне здавалася, што там пустыня да самага краю. Што іншага жыцця нідзе няма. А тут нас ахоўваюць нашы салдаты... Якімсьці цудам захаваўся адзін фотаздымак: наш клас знялі на Першае Мая. Кожны трымае ў руцэ маленькі чырвоны сцяжок. І я трымаю. А ўжо забілі ў турме майго тату. Ворага народа. Ужо мама кашляе крывёй. Падушка раніцай у яе ружовая. Я трымаю чырвоны сцяжок...*

*Потым нас з мамай раздзялілі. Тры гады я чакала маму. Калі мы зноў сустрэліся, мне было дзесяць гадоў. Мама адшукала мяне ў дзіцячым доме. "Галуша! Галушанька!" Ніхто мяне так не называў. Я азірнулася і ўбачыла жанчыну з чорнымі валасамі: "Мама!!".*

*Але аказалася, што мы з мамай не разумеем адна адну. Мы чужыя людзі... Я шчыра верыла, што ў мяне шчаслівае дзяцінства. Хацела хутчэй уступіць у камсамол, каб змагацца з нейкімі нябачнымі ворагамі. Каб яны не разбурылі наша самае лепшае жыццё... А мама, калі я прынесла ў дом вялікі партрэт Сталіна, кінула яго на падлогу. Пачала плакаць. Гэта нас выратавала, што яна пачала плакаць. Калі б яна не плакала, я б пайшла ў школу і сказала, што мая мама кінула партрэт Сталіна на падлогу. Я хацела ўцячы ад яе...*

*І я гэтага ніколі не папраўлю. Мамы даўно няма. Я да гэтага часу сапсаваны, агідны чалавек. Мне патрэбна зона. Гэтыя рамкі... У іх я вырасла... Я ў іх нарадзілася...*

*У мяне два сыны... Студэнты. Мы з імі чужыя людзі. Як з мамай. Ім не патрэбныя мае ідэалы. Чапаеў для іх — смешна. Паўка Карчагін — лухта. Яны нічога не баяцца... Ноччу я прачынаюся ад страху, што вішу ўніз галавой... І яны глядзяць на мяне. Назіраюць. Без літасці. З цікаўнасцю...*

*Мне няма куды вярнуцца. Я вяртаюся і вяртаюся ў зону. Ноччу я прачынаюся ад страху, што вішу ўніз галавой...".*

### Ліст трэці:

*"Ха! "Не падайте духом, поручик Голицин...". Карабель дурняў плыве...*

*Сваю свечку я затушу сам...*

*Вакол цені... Хлусня... Дарослыя недарэчныя і смешныя... Са сваімі святамі, старымі медалямі "За Прагу", "За Будапешт", дзе іх ненавідзяць... Жабрацкімі пенсіямі, завучанымі ўспамінамі... Спрэчкамі аб палітыцы: Гарбачоў — агент сусветнага імперыялізму ці вялікі чалавек? Сядзелі ў прэзідыумах, хадзілі ў школы, выступалі... Рабы вучылі рабоў...*

*Сваю свечку я затушу сам...*

*Я зраблю гэта з таемным захапленнем... Не хачу быць як яны... Як бацька...*

*Сваю свечку я затушу сам..."*

На гіганцкай сцэне гісторыі разыгралася гіганцкая сацыялістычная трагедыя...

Паводле слоў таго ж Дастаеўскага, зло ў чалавеку ляжыць




глыбей, чым гэта здаецца "лекарам-сацыялістам". І сэнс яго жыцця таксама... І тайна яго... А ў кожнага — свая тайна...

**— Такое пачуццё, што гэта ўжо з намі было. Гісторыя паўтараецца...**

— "Пачалося гэта з "пераваротных гадоў", — пісала З.Гіпіус. Пасля грамадскага пад'ёму ў 1905 годзе насталі гады смутку і адчаю. Далей у Гіпіус: у гэтыя гады (пасля іх?) з усіх шчылін поўз нябачны атрутны газ. І людзі сталі хісткімі, як "месячныя мурашкі" ў рамане Уэлса, і як яны валяцца трупік за трупікам без усялякіх бачных прычын. Проста ножкі хворыя падварочваюцца... Таму, што на вуліцы слота. Таму, што жакетку сапсавалі...

Хто ж яны, "вяртаючыя білеты", без малога сто гадоў таму?..

"...Зараз бачу маленькага настаўніка з Вяткі, аднаго з гэтых занадта абцяжараных вялізнай думкай. Мучаніка, які трывожна і нервова перагортвае свой нататнік са скаргамі на невыноснасць цяжару, які наклаў на яго Хрыстос.

"Мы павінны памерці, — гаварыў мой субяседнік, праз паўгода сапраўды памёршы "па сваёй волі!" — Каб прыняць свет у душу сваю так, як патрабуе Ён, і панесці на сабе цяжар гэтага разумення... А адштурхнуць ад сябе яблык пазнання мы не можам... Мы асуджаныя... Мы павінны памерці, таму што не можам жыць з тугой свайго пазнання...

Падысці да Галгофы, як патрабуе Ён, прыняць яе значыла ўзяць у сваё сумленне ўвесь свет, з усім ягоным злом і праказай... Так, гэта цяжка... Узяць на сябе пракажонае адзенне свет і сарваць разам з целам, са скурай. З такімі пакутамі, каб сонца спынілася ад жаху. Як тады, калі Ён памёр, сонца спынілася... Не, мы не можам. Сэрца разрываецца... Нават у яго разарвалася..." (Епіскап Міхаіл. "Пераможаны Хрыстос" і "месячныя мурашкі". Зборнік "Самазабойства". Кнігавыдавецтва "Заря". М., 1911 г).

Там жа:

"...апошні ліст нядаўняй самазабойцы з Кранштата 25-га ліпеня: "Мы, людзі XX стагоддзя, без веры, без надзеі, без жадання жыць...".

Ні Хрыстос, ні сацыялізм, ні чалавек для нас не існуюць. Нічога не існуе, акрамя думкі, а думка даводзіць да самазабойства".

Яшчэ прыклад:

*"Я ўжо некалькі гадоў заўважаю на самой сабе. Што такое са мной адбываецца? Ува мне ўсё нібыта сохне, як сохне галінка дрэва: быццам бы нічога не змянілася, погляды, мэты, памкненні — усё такое ж, але ад іх усё больш адлятае дух...*

*Я ведаю, у гэтым — рашэнне ўсіх пытанняў, шчасце і жыццё, але толькі ў мяне гэтага няма, і я... я не люблю людзей, і нічога не люблю. "Але вы гатовыя памерці за людзей?" — "Так, але толькі памерці... А не жыць для іх!" (В.Верасаеў. "На павароце").*

*Тыя ж стомленыя людзі. З тым жа бясстрашным, адкрытым паглядам у смерць. Амаль сто гадоў таму. Ёсць над чым задумацца. Напрыклад, над тым, што мы не з семнаццатага года пачаліся..."*

**— Гэта наша вечнае няўменне і нежаданне жыць цяперашнім, толькі – будучыняй. Нязменныя заложнікі будучыні. І, як вынік, дыягназ "анестэзія далароза" ці на звычайнай мове – нечуллівасць. Не адчуваем таго, што павінны адчуваць. Завышаны болевы парог.**

— Грамадства стала савецкім. Старыя хваробы не лячылі, іх узмацнялі. Інакш як навукай аб смерці — танаталогіяй нельга назваць ідэалогію, для якой чалавек быў толькі сродкам, угнаеннем для будучыні. Тайна свету, недаступны розуму, нашаму разуменню цуд — жыццё служыла мерай усіх рэчаў: у рэвалюцыю, у грамадскую вайну, у сталінскія, яжоўскія, берыеўскія трыццаць сёмыя гады, у сорак першым і сорак пятым... Мільёны людзей сышлі ў зямлю. Сышлі слепа ці з наіўнай дзіцячай верай у пад'ёмны сэнс учыненага. Што яшчэ больш недаравальна! Што яшчэ больш бясконца — псіхалогія ахвяры, а не героя... Нават нашы мірныя пяцігодкі былі ваеннымі па колькасці затрачанага чалавечага матэрыялу. Зусім нядаўна, пад час чарнобыльскай аварыі, на пасяджэннях урадавай камісіі зноў панаваў ваенны загад: на гэта трэба аддаць два—тры чалавечыя жыцці, а гэта яшчэ даражэй. "Мы за ценой не постоим...". Ламаліся, не вытрымлівалі шалёнай радыяцыі японскія робаты... Замест іх ішоў чалавек... Цудоўны і трагічны чалавек? Але чаму, калі мы будуем атамныя электрастанцыі, не ствараць робатаў, якія б не ламаліся? Чалавека там хапала толькі на пяць-дзесяць хвілін. Чалавека! У вялікай рускай літаратуры і ў хрысціянстве ёсць віна перад ім. Яны рыхтавалі яго да ахвяры...

"Зачараваныя смерцю" — так назваў Э.Фром самазабойцаў. Хіба не штосьці іншае, як не зачараванасць смерцю, было нашым духоўным жыццём. Нашымі песнямі: "И как один умрем в борьбе за это...", "Мы за ценой не постоим...". "Всплывем на рассвете. Приказ есть приказ. Погибнуть во цвете...". Знявага да чужога і асабістага жыцця называлася гераізмам. Унушалася не швейцарская "глыбокая пашана перад жыццём", а глыбокая пашана да ідэі... Ідэі з доўгім нажом, прыстаўленым да горла... Калі чалавек крычыць, каго ён чуе?..

**— Чалавека прыцягвае, спакушае самазабойства... Так было і ў часы рымскай рэспублікі, і ў эпоху Нерона, і пры Леніне... Акрамя зямных ёсць іншыя сілы над чалавекам...**

— Мяне доўга не пускала забароненасць гэтай тэмы. Засцерагала. Здавалася, нельга ўголас вымавіць. Але тысячы людзей навокал сыходзяць у невядомае. Мы застаёмся без іх. Хто іх адводзіць? Забірае? Куды? Навошта?

Д'яблу трэба паказаць люстэрка. Каб ён не думаў, што ён нябачны...

Паўтару прытчу з "Легенды пра Флору" У.Караленкі:

"Аднойчы Бог, злітаваўшыся над зямлёю, якая ўся была пакрыта злом і бедствамі, паслаў на зямлю нявіннага анёла, якому імя "Няведанне зла".

І каму выпадала зазірнуць у ягоныя чыстыя вочы, той прасвятляўся... І няшчасны забываўся на сваё гора, а злы забываўся на сваю злосць, і вакол анёла злосць змаўкала, а ён ляцеў далей.

І вось аднойчы на вачах нябеснага пасланца забілі чалавека, да якога прывёў забойцаў сам анёл. Кроў пырснула з раны і трапіла на беласнежнае адзенне анёла і засталася на ім пунсовай плямай.

І толькі позірк анёла ўпаў на пунсовую кроў, — яе водбліск адлюстраваўся ў ягоных вачах, і яны страцілі сваю былую яснасць і радасны свет. Ён падняў іх на людзей з выразам літасці і спалоху, а затым з жахам падняўся да прастола Бога...

"Госпадзь, — сказаў ён. — Ты сам паслаў мяне на зямлю... Зрабі, Прадвечны, каб я не ведаў, як раней, каб у душы маёй зноў усталявалася яснасць святога няведання...".

І анёл, рыдаючы, схіліўся...

"Не ведаеш, аб чым просіш, — адказаў яму Госпадзь. — Я не зраблю гэтага, але замест няведання я дам табе журботнае разуменне. Я запаведую табе насіць гэтую кроў, як святыню". І тады ў вачах анёла знік журботны боль і засвяцілася ў іх журботнае веданне, і стала яго імя "Вялікая журба".

Д'яблу трэба паказваць люстэрка, каб ён не думаў, што ён нябачны...

Гэта будуць гісторыі адтуль... З іншага, сустрэчнага берага жыцця... Можа, яны наблізяць нас да таямніцы саміх сябе...

(Працяг у наступным нумары).

# ПАД ЧЫСТЫМ НЕБАМ БРУДНАЙ ЗОНЫ

*Святло чырвонае калін,*
*Палескі край,*
*пяшчотна-мілы.*
*І журавоў расстайны клін*
*У туманах палошча крылы.*

Строфы з верша Міколы Мятліцкага. Са зборніка 85-га года. Мікола Мятліцкі – гэта вёска Бабчын... Да 1986-га красавіка яшчэ цэлы год.

Уладзімір Гардзеенка – гэта вёска Мокіш. Матчына хата, басаногае дзяцінства, доўгі шлях з-пад саламянай страхі ў мармуровы сакратарыят Саюза мастакоў. 1985-ы год. Да рэанімацыйнага пакоя яшчэ тры гады.

Між Бабчынам і Мокішам – тузін заячых крокаў. Першая вёска за калючым дротам. Другая – на "чыстай зямлі". Жыві на здароўе і ўслед сіверу плюй. Ды толькі на поўдзень не паглядай. Бо...

*Яшчэ цяпло не адышло,*
*Яшчэ зямлі*
*не счэзлі сокі.*
*Ды ўжо трывожнае крыло*
*Сячэ бухматыя аблокі.*

Чарнобыльская навала па-рознаму адгукнулася ў сэрцах творцаў яшчэ пакуль дрымотнай таталітарнай краіны. Адны кінуліся да замежных мікрафонаў, другія выдалі на-гара п'есу, напісаную за 24 гадзіны, трэція паклалі ў сталы першыя радкі нешануемай праўды, чацвёртыя ... чацвёртыя замаркоціліся ў роспачы ля сваіх пісьмовых сталоў... раляў... эцюднікаў...

Уладзімір Цітавіч Гардзеенка з гэтых апошніх, з чацвёртых. Над чарнобыльскім цыклам ён пачаў працаваць значна пазней 86-га года. Штуршком стала трагічная акалічнасць. Цяжкая хвароба, клінічная смерць, два гады амаль поўнай непрацаздольнасці, калі нават пэндзаль з рук валіўся. І вось...

*— Пасля хваробы я зусім па-іншаму пачаў глядзець на свет,— расказвае мастак.— Шмат чаго пераасэнсаваў. З'явіліся новыя каштоўнасці. Пабываўшы ў руках смерці, набыў нейкі філасофскі позірк на з'явы, на рэчы, на само жыццё. Шмат у чым расчараваўся. Многа ўва што паверыў.*

Творчы застой цягнуўся ў мастака да тае пары, пакуль не вырашыў наведаць родныя мясціны, шматпакутную Гомельшчыну.

Нарадзіўся У.Ц.Гардзеенка за пяць гадоў да Вялікай Айчыннай у вёсцы Клівы, што на Хойніцка-Мазырскім тракце,



недалёка ад славутых мележаўскіх Юравічаў. Бацьку страціў 22 чэрвеня 41-га года. Да сённяшняга дня не ведае, дзе магіла роднага яму чалавека, які на дасвецці павесіў на плячо карабін, пяшчотна развітаўся з ледзь апранутай маладой жонкай і двума заспанымі хлапчукамі і затым ступіў з ганка ў ранішнія туманы, у якіх ужо стракатаў кулямёт пагранічнікаў, ірваліся гарматныя снарады і чулася незнаёмая гыргочучая гамонка ўзброеных веласіпедыстаў...

На светлае даваеннае жыццё сям'і Гардзеенкаў вайна вылілася нібыта дуток чорнай тушы. Першыя месяцы ліхалецця аджылі ў яўрэйскім гета пад Брэстам. Вырашыла дзіцятка выйсці па-за межы рэзервацыі – хальт! Нарушыў каменданцкі час – эршыссэн! Трапіў пад дрэнны настрой паліцаяў – атрымай бізуном па галаве. Акурат гэтае апошняе здарылася з маці мастака. Аднаго разу паднямецкія служкі ўварваліся раз'юшаныя ў барак, пагасілі святло і пачалі лупцаваць зняволеных... Шруб, што быў на канцы бізуна, рассек матчыну галаву... Рана дык загаілася, але праз колькі год...

*— Калі маці памерла і ўрачы зрабілі трэпанацыю, высветлілася, што ракавая пухліна развілася якраз на тым месцы, дзе калісь "адпячаталася" паліцэйская пуга.*

Уладзімір Цітавіч дрэнны расказчык. Ён размаўляе неяк адрывіста, скамечана, нібыта нервуецца з невядома якой нагоды, і таму словы лезуць на словы, як мазкі фарбаў. Але ягоныя моўныя заіканні не маюць нічога агульнага з мовай выяўленчай. Тут усё сфармулявана лаканічна і паслядоўна, без ваганняў і пераробак. Лініі на палотнах упэўненыя і кантрастныя, не гіпербалізаваныя, але далёкія ад тых, што сустрэнеш у прыродзе. Тое ж самае і з фарбамі. Чырвоная плямачка нібыта выпадкова трапляе ў гушчар блакітна-халодных





адценняў. Як журавінка, яна ў цэбары квашанай капусты. Бо без яе, без чырвонай кропкі, не будзе той гармоніі, якая нас радуе, супакойвае, замілоўвае, калі не спяшаемся жыць.

Ад натуры бяруцца мастаком толькі паветра, асвятленне і настрой. Усё астатняе пераасэнсоўваецца і абагульняецца. "Барвовыя сосны", "Тры стажкі чарнобыльскага сена", "Пакінуты сабака", "Дзядоўнік вышынёю ў хмарачос", "Царква. Туман ахутаў дрэвы", "Букет-капліца", "Нямецкі дамок з Прывакзальнай плошчы ў Менску", серыя нацюрмортаў "Кветкі з-пад дроту". Усе гэтыя карціны існуюць зусім пад іншымі назвамі. Але я ўзяў на сябе адвагу прааналізаваць карціны "Чарнобыльскага цыкла" мастака Гардзеенкі менавіта так. Бо чытач не можа ацаніць па чорна-белых фотаздымках усёй усяленскасці і разам з тым арыгінальнасці твораў мастака, якому, на маю думку, цяжка сфармуляваць словамі ў назве карціны ўсё тое, аб чым распавёў пэндзаль на палатне.



*Ды ўжо ярчэй святло калін*
*Над сцежкай стоенай ласінай.*
*І лета —*
*зыркі ўспамін —*
*Трымціць асінай.*

Заканчваецца мая экскурсія па майстэрні, якая, дарэчы, знаходзіцца ў адной з вежаў Прывакзальнай плошчы Мінска. Радасць таго, што я першым убачыў "Чарнобыльскі цыкл" У.Ц.Гардзеенкі, перамешваецца з сумам, які бруіцца ад слова "чарнобы..." І ўсё ж радасць пераважае, перамагае. Ведаеце, чаму? Таму што карціны мастака не песімістычныя, яны скрозь прасякнутыя верай у акрыянне дарагой мастаку з дзяцінства зямлі. Так, кветкі на пастэльных нацюрмортах маюць такое каляровае вырашэнне, што здаюцца забруджанымі бачным цэзіем і смярдзячым стронцыем; так, поўсць сабакі наўрад ці густая, а скавытанне ягонае наўрад ці аб каханні; так, на пейзажах не сустрэнеш ані чалавечага следу, ані чалавечага ценю, тым не менш... на ўсіх карцінах неба добразычлівае, верай праменіцца.

Я не распытваў мастака, што гэта за вера і наколькі рэлігійную афарбоўку яна мае. Для мастака, былога камуніста, больш таго – былога функцыянера самага высокага кіруючага ўзроўню – наўрад ці будзе магчыма замазаць на карціне "А.Г. Чарвякоў на прыёме ў У.І. Леніна" свой уласны аўтограф і пачаць тыражаваць іконы з выявамі дэмакратаў. Упэўнены, гэтага не будзе. Бо мастак, пра якога я пішу, прайшоў не партчыстку, а чысцілішча бога. І пра што там яны размаўлялі – толькі неба ведае. Чыстае неба над бруднай зонай.

Андрэй Смірноў.

P.S. Калі матэрыял быў падрыхтаваны да друку, мастак хвалююча-радасна паведаміў, што атрымаў прапановы на правядзенне персанальных выстаў у Гомлі і ў Іспанскай Гранадзе.



# БАЦЬКІ ГЕРОЯ



Іван Тарасавіч і Таццяна Пятроўна Ігнаценкі выязджаюць з Брагіна з цяжкім сэрцам. Справа не толькі ў перамене месца жыхарства. Тут яны выгадавалі сына Васіля, які памёр у страшэнных пакутах пасля прамянёвай хваробы ў маскоўскай клініцы. Ён быў пажарнікам у горадзе Прыпяці, у ліку першых тушыў чацвёрты блок праклятай усімі Чарнобыльскай атамнай станцыі. Васіль і пяцёра яго таварышаў ляжаць пад бетоннымі плітамі ў далёкай Маскве. Цела было да таго радыеактыўнае, што хаваць дамоў не павезлі. Па ініцыятыве былога райкома камсамола пачалася работа па ўвекавечанню помніка Васілю Ігнаценку ў Брагіне.

Аднак грошай хапіла толькі на тое, каб заплаціць за выкананне бюста ў гіпсе. Праца спынілася. Да таго ж гомельскія пажарнікі вырашылі паставіць помнік Ігнаценку ў сваім горадзе. Прычым той, што заказалі брагінцы... Больш за ўсіх у гэтай гісторыі перажывалі бацькі.

Гіпсавы бюст Ігнаценкі ў Брагін усё ж прывезлі, прывезлі і сціпла паставілі ў карціннай галерэі.

26 красавіка Таццяна Пятроўна і Іван Тарасавіч збіраюцца ў Маскву, на магілу сына, які загінуў за ўсіх нас.

Фота С.Брушко.



## Чарнобыль-дайджэст

* * *

Паводле звестак, прыведзеных на нядаўняй прэс-канферэнцыі ў Дзяржкамчарнобылі РБ, многія дзеці з забруджаных раёнаў, што выязджаюць на лячэнне за мяжу, становяцца ахвярамі нядобрасумленных дарослых. У мінулым годзе, напрыклад, група гомельскіх дзяцей літаральна галадала, пакуль суправаджаючыя іх у Польшчу "дзядзькі" і "цёткі" прапівалі і праядалі дзіцячыя грошы.

* * *

Мы ўсе жывём на вялізным радыяцыйным сметніку,– да такой высновы прыйшлі вучоныя з Інстытута радыебіялогіі АН рэспублікі. Справа ў тым, што радыеактыўныя рэчывы не спяшаюцца "схавацца" пад зямлю, як гэта абяцалі раней навукоўцы; рэальная хуткасць іх апускання зусім невялікая. У выніку амаль усё радыеактыўнае смецце пакуль застаецца на паверхні глебы.

* * *

Неаднаразова ўзнімалася ў друку тэма "ліпавых" ліквідатараў, якія з дапамогай фальшывых пасведчанняў карыстаюцца незаслужанымі льготамі. І вось нарэшце ўрад рэспублікі прыняў рашэнне аб правядзенні праверкі правільнасці выдачы пасведчанняў і нагрудных знакаў ліквідатараў. Саўмін стварыў спецыяльную камісію для гэтага. Хацелася б толькі ведаць, якім чынам будуць адбірацца фальшывыя дакументы, калі такія будуць выяўлены.

* * *

Спецыялістамі Мінскага мядінстытута і НДІ анкалогіі і медыцынскай радыялогіі распрацаваны новы супрацьрадыяцыйны прэпарат "АК". Сродак плануецца прымяняць для затрымання росту ракавых пухлін, а таксама для прафілактыкі насельніцтва забруджаных раёнаў.

(Паводле матэрыялаў друку).

Дзяжурны рэдактар А. АГІБАЛАВА.

Мастацкае афармленне нумара В. ДУБОВІКА.

ЧЫРВОНАЯ Змена

Заснавальнік: ЦК ЛКСМБ
Выдавец: газетна-выдавецкая фірма "Белая Русь"
Газета ўзнагароджана ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.
АДРАС рэдакцыі: 220041, г.Мінск, праспект Скарыны, 77.
ТЭЛЕФОНЫ: 32-13-54, 32-50-01.
Газета набрана і звярстана ў наборна-выдавецкім бюро газетна-выдавецкай фірмы "Белая Русь".
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку", г. Мінск.
Індэкс 63906. Тыраж 17 000.

Галоўны рэдактар Уладзімір БЕЛЬСКІ.



Зак. № 17.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12